19 мая 2017 | № 19 (533)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Германія можа пажаўцець стар. 9

4 «ВОЛЬНАЯ БЕЛАРУСЬ» БЕЗ БЕЛАРУСАЎ



Поспех рэформаў у першую чаргу залежыць ад здольнасці рэфарматараў стварыць кааліцыі ў сваю падтрымку

6–7 ЯК СА СПЕЦЫЯЛІСТАЎ РОБЯЦЬ «ДАРМАЕДАЎ»

Цэлая серыя звальненняў спецыялістаў у сельскагаспадарчым прадпрыемстве ў вёсцы Праснакі Капыльскага раёна выклікала цікавасць

8 ЦІ ХАЦЕЎ КІМ ЗАБІЦЬ КІМА?



Пхеньян рапартуе: план забойства лідара КНДР з дапамогай радыяцыйнай зброі выкрыты. Пры ўсёй камічнасці заявы, яе наступствы могуць быць вельмі сур'ёзнымі

10–11 ПАЛЕССЕ НЕМАГЧЫМА ПРЫСАБЕЧЫЦЬ



Каму належыць Палессе, падзеленае паміж украінцамі і беларусамі? Ці Смаленск і Бранск — нашы? А што з Беласточчынай?

# Позна на Кітай спадзявацца, калі эканоміка ляснула

## Кітайскія інвестыцыі не вернуць «беларускі эканамічны цуд»



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

Эканамічнае супрацоўніцтва з Кітаем — не панацэя для беларускай эканомікі, як спрабуюць прадставіць справу беларускія службоўцы. Кітай вельмі прагматычны — і ў любой кропцы свету праследуе толькі свае інтарэсы. Кітайскія прыгожыя словы і шчодрыя, на першы погляд, інвестыцыі яшчэ нікому не прынеслі росквіту.

### Кітай дбае пра сваё

Беларускія чыноўнікі павінны былі б памятаць, да чаго прыводзяць спробы супрацоўнічаць з Кітаем.

Гадоў 15 таму кітайцы прыехалі ў Мінск на МТЗ і заявілі, што ім цікавыя беларускія трактары. У Міністэрстве прамысловасці тады ад радасці ледзь не звар'яцелі: маўляў, кітайскі рынак бяздонны, зараз завалім яго трактарамі і ўзбагацімся. Ага... Кітайцы купілі 10 трактароў — «на выпрабаванне». Раздалі іх дзесяці сваім заводам — тыя скапіявалі і пачалі самі выпускаць такія ж трактары для ўласнага рынка. А беларусы засталіся з прыгожымі кітайскімі словамі — але без рынка.

Тое ж самае паўтаралася не адзін раз. Напрыклад, вытворчасці для цяжкіх стратэгічных ракет — Мінскі завод колавых цягачоў — спрабаваў стварыць у Кітаі ўласную зборачную вытворчасць. Але ў выніку кітайцы проста скапіявалі беларускую канструкцыю.

«Лукашэнка разлічваў, што ў адносінах з Кітаем магчымая тая ж мадэль, што і ў адносінах з Расіяй. То бок, «у абмен на пацалункі» атрымліваць не газ і нафту, як ад Расіі, а інвестыцыі ў беларускую эканоміку. Але з Кітаем гэтая мадэль не працуе», — тлумачыць эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валер Карбалевіч.

Паводле эксперта, Пекін вельмі прагматычна ставіцца да адносін з любой іншай краінай. На ўзроўні рыторыкі — яны гатовыя падпісваць любыя камюнікэ, любыя дэкларацыі — пра якое заўгодна стратэгічнае партнёрства. Але, калі справа даходзіць да эканамічных інтарэсаў, усё зводзіцца да выдачы звязаных крэдытаў. Якія вельмі выгодныя кітайскаму боку, але вельмі не выгодныя нам.

«Нагадаю, што нядаўна, прымаючы кітайскіх прадстаўнікоў, Лукашэнка выказаў вялікую незадаволенасць. З-за таго, што адносіны з Кітаем ідуць аднабаковыя, што ва ўзаемным гандлі ў Беларусі вялікі мінус. Сапраўды, прадаць Кітаю апроч калійных угнаенняў нічога не атрымліваецца, а вось кітайскія тавары і абсталяванне, атрыманыя пад звязаныя крэдыты, завалілі ўсю Беларусь», — падкрэслівае Валер Карбалевіч.

Насамрэч, праблема не толькі Лукашэнкі, але і лідараў большасці краін у тым, што яны не чыталі працы Маа Цзэдуна і не разумеюць кітайскага светапогляду. Маа прама пісаў: «Увесь свет павінен належаць Паднябеснай». А менталітэт кітайцаў выяўляецца ў тым, што яны гатовыя казаць шмат прыгожых слоў, даваць любыя абяцанкі, — але дзейнічаюць усё роўна па-свойму. І для іх цалкам чужы заходні падыход «Win — Win», гэта значыць калі ад угоды павінны выйграць абодва бакі.



> **Пекін вельмі прагматычна ставіцца да адносін з любой краінай**

Вельмі яскрава гэта праяўляецца ў Афрыцы. Напрыклад, Кітай прапанаваў Кеніі дапамагчы падняць яе сельскую гаспадарку — інвестыцыямі, таннымі крэдытамі. Кенійцы пагадзіліся, далі шмат добрай зямлі ў арэнду на 50 гадоў. Кітайцы яе агарадзілі платамі, пабудавалі закрытае мястэчка, у якое завезлі сваіх працоўных. Вынік: працуюць кітайцы, усё, што вырашчана, адпраўляецца ў Кітай, усё абсталяванне таксама закуплена ў Кітаі. А Кеніі, па выніку, застанецца зняпалыя на 200% землі і сціплыя грошы за арэнду.

Падобнае было ва Угандзе — там кітайцы ўзяліся прывесці ў парадак (насамрэч — стварыць) дарожную інфраструктуру. На стадыі перамоў усё выглядала добра: кітайскія банкі фінансуюць праект пад гарантыі мясцовага ўрада, кітайцы будуюць патрэбныя заводы і ствараюць працоўныя месцы. Вынік: кітайцы паставілі ўласныя асфальтавыя і цэментавыя заводы са сваім абсталяваннем, завезлі сваіх працоўных і нават сыравіну. А потым сваімі ж сіламі пабудавалі дарогі. Цяпер ва Уганды ёсць дарогі, «забітыя» працай у тры змены састарэлыя заводы і велізарны дзярждоўг перад Кітаем. Працоўных месцаў у краіне не дадалося.

### Шаўковы шлях без шоўку

У Пекіне 14–15 мая адбыўся саміт кіраўнікоў дзяржаў — удзельніц ініцыятывы «Эканамічнага пояса новага Вялікага шаўковага шляху». Беларусь з 2015 года лічыць сябе ключавым вузлом гэтага самага «Новага Вялікага шаўковага шляху», транзітным злучэннем паміж ЕАЭС і Еўрапейскім Саюзам.

Працяг на стар. 5 »

# Някляева судзілі без яго прысутнасці

Генадзь КЕСНЕР

**50 базавых велічынь (1150 рублёў) штрафу — такое рашэнне 17 мая прыняла суддзя Ленінскага раёна Мінска Святлана Мятлёнак у дачыненні да Уладзіміра Някляева.**

Экс-кандыдата ў прэзідэнты абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаванай акцыі, што адбылася 1 мая на Кастрычніцкай плошчы (артыкул 23.34 КоАП).

Справа разглядалася без прысутнасці палітыка. За два дні да працэсу ён прызнаўся, што яшчэ не вырашыў, ці пойдзе на суд. «Відавочна, дадуць пятнаццаць сутак, таму, магчыма, лепей хай забіраюць мяне з хаты», — так песімістычна быў настроены Уладзімір Пракопавіч. У выніку ў Доме правасуддзя, дзе месціцца ў тым ліку і суд Ленінскага раёна Мінска, Някляеў не з'явіўся.

Суддзя заявіла, што асоба, у дачыненні да якой заведзена адміністрацыйная справа, «была своечасова паведамлена пра месца і час працэсу», таму было прынята рашэнне праводзіць разгляд без прысутнасці Някляева.

У якасці сведкаў выступілі камандзір групы АМАП Мінгарвыканкаму Дзмітрый Пачценны і камандзір аддзялення АМАП Мінгарвыканкаму Уладзімір Грыцко. Абодва распавялі, што 1 мая каля 14 гадзін неслі дзяжурства па ахове грамадскага парадку ў цэнтры Мінска ў раёне Кастрычніцкай плошчы, дзе, па іх словах, «адбываўся не санкцыянаваны ўладамі мітынг».

Амапаўцы абсалютна аднолькава заявілі, што да гэтага не ведалі Някляева асабіста, але бачылі і чулі, што менавіта ён выступаў на прыступках Палацу Рэспублікі з гукаўзмацняльнікам, выкрыкваў: «Жыве Беларусь!» і «Баста!» Прысутныя на плошчы падтрымлівалі гэтыя лозунгі. Пры гэтым Грыцко не змог адказаць на пытанне суддзі, што гэта была за акцыя і чаму яна была прысвечана.

Пасля таго, як Святлана Мятлёнак вывучыла пісьмовыя, фота- і відэаматэрыялы справы, яна канстатавала, што Някляеў шматкроць прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці ў 2015–2017 гадах, і абвясціла 15-хвілінны перапынак для вынясення пастановы па справе. Пасля перапынку прагучаў вырак — штраф у памеры 50 базавых велічынь.

Варта нагадаць, што некалькі дзён таму Уладзімір Някляеў выйшаў на волю пасля пяцідзённага тэрміну ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна. Там ён перанёс гіпертанічны крыз, але адміністрацыя ЦІП адмовілася выклікаць яму «хуткую дапамогу».

# Мінгарвыканкам vs арганізатары Чарнобыльскага шляху — 1:0

Алесь КІРКЕВІЧ

**Палітыкі лічаць, што Мінгарвыканкам парушыў закон аб масавых мерапрыемствах, але суд прыняў бок чыноўніцтва.**

У Маскоўскім судзе сталіцы была разгледжаная позва Ігара Лялькова, Юрася Меляшкевіча, Зміцера Кучука і Аляксандра Кавалькова супраць Мінгарвыканкаму. Паводле палітыкаў, чыноўніцтва не выканала закон аб масавых мерапрыемствах. Згодна закону, калі чыноўнікі змяняюць час, месца, фармат ці дату акцыі, яны павінны гэта ўзгадніць з заяўнікамі. Але заяўнікаў наўпрост азнаёмілі з ужо прынятым рашэннем.

«Канстытуцыя гарантуе грамадзянам свабоду сходаў, — тлумачыў на судзе намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юры Меляшкевіч. — Працэдура парушана — гарвыканкам не ўзгадніў змены ў маршруце, праігнараваўшы нашу просьбу і патрабаванні закону. У далейшым падобная практыка павінна базавацца на законах!»

Паводле Мінгарвыканкама, які ў судзе прадстаўляў Юрый Уральскі, сустрэча з заяўнікамі 17 красавіка і была ўзгадненнем. Пры гэтым падчас сустрэчы палітыкаў наўпрост азнаёмілі з ужо прынятым рашэннем, а ў адказ на абурэнне сп. Уральскі параіў звяртацца ў суд, што і зрабілі палітыкі. Суддзя Анціпчук, у выніку, заняла бок чыноўнікаў, не задаволіўшы позвы прадстаўнікоў палітычных структураў.

Палітыкі з рашэннем не згодныя, але яшчэ абмяркоўваюць, ці судзіцца з Мінгарвыканкамам далей.

Адзначым таксама, што падчас пасяджэння журналіст «Новага Часу», адзіны прадстаўнік СМІ на працэсе, быў выдалены з залу суддзёй без тлумачэння прычынаў. Фармальнай падставай сталі зачэпкі да журналіста з боку грамадзяніна сярэдніх гадоў, маўляў, той замінае яму слухаць, «клацаючы па клавіятуры кампутара».

# Ці паважаюць беларускія суддзі Рэспубліку Беларусь?

Ігар БАЖЭНАЎ

**Памылкамі ў дзейнасці судоў беларусаў не здзівіць. Але як насамрэч ставяцца суддзі да ўласных прысудаў, якія выносяцца імі ад імя Рэспублікі Беларусь? Гэтае стаўленне прадэманстраваў суд Фрунзенскага раёна Мінска.**

4 мая скончылася разбіральніцтва судом Фрунзенскага раёна крымінальнай справы, звязанай з крадзяжом дызельнага паліва з нафтаправода Полацк–Вентспілс. Справа разглядалася ў дачыненні да 12 беларускіх грамадзян, якія абвінавачваюцца ў крадзяжы ў асабліва буйным памеры і ў наўмысным пашкоджанні магістральнага трубаправоднага транспарту.

Суддзя Юлія Крэпская пасля абеду пачала абвяшчаць прысуд седзячы, таксама седзячы слухалі прысуд і народныя засядацелі, пракурор, і прысутныя ў зале суда грамадзяне. Стоячы прысуд (як прадугледжана Крымінальна-працэсуальным кодэксам для ўсіх) слухалі толькі абвінавачаныя і адвакаты Максім Конан і Алег Варакса.

Раніцай 5 мая, калі суддзя Крэпская працягнула абвяшчаць прысуд, яна прапанавала прысесці адвакатам, на што адвакат Варакса адзначыў, што «ў нашай краіне, паводле часткі 1 артыкула 365 КПК, усе прысутныя ў зале судовага пасяджэння, не выключаючы складу суда, выслухоўваюць прысуд стоячы. Акрамя таго, калі мой падабаронны выслухоўвае прысуд стоячы, то і я яго буду слухаць стоячы».

Аднак суддзя Крэпская на патрабаванне выканання закона не адрэагавала, і працягнула абвяшчаць прысуд седзячы.

Тым самым сама суддзя парушыла Крымінальна-працэсуальны кодэкс, абвяшчаючы прысуд «імем Рэспублікі Беларусь» седзячы, дэманструючы ўсім сваё сапраўднае стаўленне да судовай улады і непавагу да ўдзельнікаў крымінальнага працэсу.

Пры гэтым суд адхіляў усе хадайніцтвы боку абароны па справе, што, як правіла, паказвае аднабаковасць іняпоўнасць судовага разбору. У выніку быў прысуд быў абвінаваўчым, згодна з якім падсудныя атрымалі пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрміны ад 3 да 11 гадоў. Абарона ж настойвала на невінаватасці шэрагу абвінавачаных і паказвала на неабходнасць перакваліфікацыі абвінавачвання ў дачыненні да іншых падабаронных.

У такіх выпадках пра падтрыманне высокага ўзроўню культуры судовай дзейнасці, павышэнне аўтарытэту судовай улады, выхаванне грамадзян Беларусі ў духу павагі і выканання законаў казаць не даводзіцца.

# Каб атрымаць працу, людзі хаваюць, што маюць інваліднасць

Арцём ЛЯВА

**У межах тыдня даступнасці 16 мая адбыўся круглы стол «Працаўладкаванне без межаў: Праблемы і рашэнні».**

Мерапрыемства арганізавалі Офіс па правах людзей з інваліднасцю, ODB Brussels, установа «Сацыяльныя тэхналогіі бізнесу».

Юрыст Офіса па правах людзей з інваліднасцю Алег Граблеўскі распавёў пра праблемы працаўладкавання ў Беларусі. Апошнім часам людзям з інваліднасцю знайсці працу стала яшчэ цяжэй. Бюракратычны бар'ер, калі трэба сабраць шмат дакументаў, ды выключна медычны падыход пры ацэнцы працаздольнасці, які стварае істотныя абмежаванні, фактычна дыскрымінуюць інвалідаў. Таму пры працаўладкаванні людзі часта прыхоўваюць факт сваёй інваліднасці.

Паводле Граблеўскага, хаця і ёсць дзяржаўная праграма падтрымкі інвалідаў, няма незалежнага маніторынгу яе эфектыўнасці.

Згадаў ён сярод праблем працаўладкавання людзей з інваліднасцю і адсутнасць безбар'featнага асяроддзя. А моцна забюракратызаваная рэабілітацыя і адаптацыя інваліда для працадаўцы ствараюць дадатковыя перашкоды.

Таксама Алег Граблеўскі як праблему адзначыў закрытасць статыстыкі па працаўладкаванні інвалідаў, у сувязі з чым немагчыма нават ацаніць маштаб праблемы. «На апошнім кірмашы вакансій у Мінску інвалідам прапаноўвалася толькі 32 вакансіі з заробкам 200–250 рублёў», — прывёў Алег Граблеўскі красамоўныя лічбы.

Шмат у якіх краінах ёсць закон пра сацыяльнае прадпрымальніцтва. Гэта і стала тэмай для далейшага абмеркавання. З дакладам выступіў Валеры Жураўкоўскі ад Міжнароднага асветніцкага грамадскага аб'яднання «Акт». Такога тэрміна, як сацыяльнае прадпрымальніцтва, у беларускім законе няма, але існуюць прадпрыемствы, якія маюць пэўныя падатковыя льготы. Удзельнікі круглага стала адзначалі, што гэтага яўна недастаткова, бо працаўладкавана толькі каля 15% людзей з інваліднасцю.

Прысутныя інваліды і іх сваякі агучылі памеры пенсій па непрацаздольнасці: іх велічыня вагалася ад 170 да 200 рублёў. Эксперты дадалі, што сярэдняя пенсія для інвалідаў складае каля 120 рублёў.

У дыскусіі, дзе агучваліся праблемы і магчымыя шляхі іх вырашэння, прымалі ўдзел прадстаўнікі асацыяцый інвалідаў, мясцовых уладаў, Мінпрацы, прадпрымальнікі праваабаронцы, самі інваліды. Удзельнікі адзначалі, што праблема з працаўладкаваннем інвалідаў абвастраецца ў тым ліку ў сувязі з пагаршэннем агульнай эканамічнай сітуацыі ў краіне.

# Не спыняць дапамогі сем'ям патрыётаў

**«Беларуская вясна» прынесла яе ўдзельнікам сотні прысудаў на штрафы і суткі. Аднак ёсць і тыя патрыёты, хто застаецца за кратамі, ім пагражаюць сур'ёзныя тэрміны зняволення.**

Пра тое, чым можна дапамагчы сем'ям былых сяброў «Белага легіёну», гаворыць старшыня «Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"» Ніна Шыдлоўская.

— Частка сем'яў засталася без кармільцаў. Гэта жонкі з малымі дзецьмі на здымных кватэрах. Ужо зараз відавочна, што гэтая справа стане марафонам, яна хутка не вырашыцца. А сем'ям трэба збіраць перадачы, жыць самім, карміць сваіх дзетак. І я звяртаюся да ўсіх, хто толькі можа мяне пачуць: не спыняйце гэтай матэрыяльнай дапамогі сем'ям, бо ім без нашай дапамогі, яшчэ ў стане псіхалагічнага прэсінгу з усіх бакоў, самім справіцца немагчыма. А спадзяванняў на хуткае вырашэнне справы пакуль няма.

Былых удзельнікаў арганізацыі «Белы легіён» беспадстаўна абвінавачваюць у стварэнні незаконных узброеных фармаванняў і прыцягваюць утрымліваць за кратамі. Каб даведацца, якім чынам дапамагчы іх сем'ям, дастаткова зайсці на старонку інтэрнэт-суполку BY_help.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Выгаднае нездароўе нацыі

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Кіраўнік краіны рэгулярна кажа, што ў Беларусі не будзе ні рэформаў, ні рэвалюцый. Аднак варта было яму з'ехаць у Кітай, і рэвалюцыйныя прапановы пачалі прасочвацца на публіку. Вось толькі яны наўрад ці выканальныя.**

Ледзьве не палову насельніцтва агаломшыла ініцыятыва Міністэрства аховы здароўя. Зважаючы на тое, што ў Беларусі паляць амаль 64% мужчын і 21% жанчын, а краіна знаходзіцца на 6-м месцы сярод самых палькіх краін свету, паступіла прапанова забараніць паленне амаль паўсюль. Прынамсі, шэраг жорсткіх захадаў наконт гэтага ўжо знаходзіцца ва ўрадзе. Калі ён будзе зацверджаны, дык аматарам падыміць давядзецца нялёгка.

Па-першае, плануецца цалкам забараніць паленне ва ўсіх кропках грамадскага харчавання, гасцініцах, пад'ездах і дварах, на прыпынках грамадскага транспарту, у парках, скверах, установах, на дыскатэках і нават у казіно. Пры гэтым збіраюцца ліквідаваць курыльні і асобныя залы для тых, хто паліць.

Па-другое, прапануецца забараніць паліць на працоўным месцы, а «пры неаднаразовым парушэнні (два і больш разоў) прымаць меры аж да скасавання кантрактаў з парушальнікамі».

Па-трэцяе, павялічыць штраф за курэнне ў неналежным месцы ў 10 разоў: з 0,1–0,5 да 1–5 базавых велічынь.

Ну і традыцыйныя супраць курцоў захады: павялічыць узрост да набыцця цыгарэт да 21 года, парушальнікаў-прадаўцоў пазбаўляць ліцэнзіі на гандаль тытунём; прадаваць цыгарэты толькі ў спецыялізаваных (выключна дзяржаўных) крамах; забараніць любую рэкламу цыгарэт; падняць кошты на тытунёвыя вырабы.

Галоўны санітарны ўрач Беларусі Валянціна Качан абгрунтавала такія драконаўскія прапановы тым, што, паводле яе меркавання, «забаронныя захады — найбольш эфектыўныя». «Істотна паўплываць на тых, хто паліць, і на пакаленне, якое падрастае і ўжо цягнецца да цыгарэты, толькі асветніцкімі мерамі ўжо немагчыма. Давядзецца фармаваць у людзей устойлівае непрыманне тытуню мерамі забароннымі», — тлумачыць Качан.

Аналагічная сітуацыя з алкаголем. На тыдні прадстаўнік Сусветнай арганізацыі аховы здароўя Гаўдзі Галі агучыў сусветных лідараў па спажыванні алкаголю. Беларусь саступіла сваё пачэснае першае месца Літве. Паводле дадзеных за 2016 год, адзін жыхар Літвы ў сярэднім выпіў 16 літраў чыстага алкаголю. У Беларусі выпіваюць каля 15 літраў чыстага алкаголю ў год. Трэці радок займае Латвія (у сярэднім каля 13 літраў на кожнага жыхара краіны). Расія разам з Польшчай размясціліся на чацвёртым радку з паказчыкам крыху больш за 12 літраў на кожнага жыхара.

Варта адзначыць, што па выніках даследавання СААЗ за 2008–2010 гады, апублікаваным у мінулым годзе, Беларусь аказалася самай пітушчай краінай у свеце. Па выніках 2013 года Беларусь апынулася ў тройцы сусветных лідараў па выдатках насельніцтва на алкаголь, а ў 2014 годзе беларусы былі самымі пітушчымі ў Еўропе.

Такім чынам, Міндзароўя цалкам апраўдана непакоіцца пра стан здароўя грамадзян. Але ў сённяшняй сітуацыі татальнага дэфіцыту грошай урад наўрад ці прыслухаецца да дактароў. Інакш краіну чакае поўнае банкруцтва.

У цане аднаго пачку цыгарэтаў — акцызы складаюць 40% вартасці. Грошы ад акцызаў ідуць у дзяржбюджэт. У сярэднім курэц паліць пачак у дзень. Шляхам няхітрых маніпуляцыяў з калькулятарам (пачак цыгарэт 1,80 BYN, 40% акцызу, 365 пачакаў на год і курс долара 1,85), мы атрымліваем, што сярэдні курэц спансуе дзяржаву штогод прыкладна на 150 долараў. Памножыць гэта на 64% мужчын, якія паляць, — атрымаем неблагую суму больш чым у 400 мільёнаў долараў. Дададзім сюды 21% беларускіх жанчынаў — і за гэтыя грошы мы можам цалкам сплаціць наш нядаўні доўг «Газпрому».

> **40%**
> **кошту ў пачаку цыгарэт складаюць акцызы. Адзін курэц спансуе дзяржаву прыкладна на 150 долараў у год**

Штрафы за «паленне ў недазволеным месцы» наўрад ці дасягнуць такой сумы, як акцызныя зборы.

З акцызамі на алкаголь яшчэ цікавей: ад 38% у цане бутэлькі «чарнілаў» да 80% — у бутэльцы гарэлкі.

Пасля такіх падлікаў усе драконаўскія прапановы Міндзароўя можна выкідаць у смецьніцу.

Незразумела таксама, як выканаць патрабаванне пра продаж тытуню толькі ў дзяржаўных крамах. Бо выключна дзяржаўных крамаў у нас амаль няма.

А скасаванне кантрактаў з працоўнымі за паленне? Будзем зноў пладзіць беспрацоўе? Забыліся ўжо пра «маршы недармаедаў» увесну?

Тым больш, што рэальныя наяўныя грашовыя даходы беларусаў, паводле дадзеных Белстату, працягваюць падзенне. У студзені-сакавіку гэты паказчык скараціўся на 2,2% да аналагічнага перыяду мінулага года.

Нагадаем, у студзені-лютым рэальныя наяўныя даходы беларусаў упалі на 3,2% да аналагічнага перыяду мінулага года, а ў студзені — на 4,5%. Тым не менш, загад Лукашэнкі пра сярэдні заробак у 1000 рублёў да канца года ніхто не адмяняў. Адкуль узяць грошы на павышэнне заробкаў?

І, паводле аналітыкаў, сітуацыя можа пагоршыцца. Дапаможа гэтаму, як заўсёды, «знешні фактар». Кіраўнік Мінэканомразвіцця Расіі Максім Арэшкін на мінулым тыдні ажыццявіў новую слоўную інтэрвенцыю на карысць расійскага рубля, распавёўшы пра прычыны, на падставе якіх ён чакае ўздыму курсу долара ўжо летам бягучага года. Арэшкін адзначыў, што ў пачатку бягучага года імпарт тавараў з далёкага замежжа вырас на 20–25%, а абарот расійскіх авіяліній па замежных напрамках расце прыкладна на 30% да ўзроўню мінулага года. «І ў выніку гэтыя тэндэнцыі прывядуць да таго, што імпарт вырасце да такога ўзроўню, што бягучы рахунак плацежнага балансу перастане быць моцным», — зрабіў высновы міністр.

Ён лічыць, што імпарт дасягае піку ў ліпені-жніўні, у той жа час, калі будуць ажыццяўляцца выплаты дывідэндаў замежным акцыянерам расійскіх кампаній. Пры бягучых цэнах на нафту курс долара павінен падняцца да 62–63 RUB/USD (зараз долар каштуе 56 расійскіх рублёў).

Як вядома, усе падзенні рубля ў Расіі імгненна адбіваюцца на Беларусі. Калі прагноз Арэшкіна спраўдзіцца, беларускі рубель таксама лясне. І ў гэтай сітуацыі весці барацьбу з напаўняльнікамі беларускага бюджэту наўрад ці хто адважыцца.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Кастусь Жукоўскі



**Гомельскі журналіст-фрылансер выйграў суд у міліцыі Лоева.**

Калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда 16 мая адхіліла касацыйную скаргу начальніка Лоеўскага РАУС, падпалкоўніка міліцыі Уладзіміра Бухаўцова.

Скарга тычылася рашэння суда Цэнтральнага раёна Гомеля адносна журналіста-фрылансера Кастуся Жукоўскага аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі. Міліцыянт падаў пазоў за відэасюжэты «Міліцыянты б'юць журналістаў, каб схаваць вынікі эканамічнага заняпаду» і «Будзённае жыццё рэгіёну Лоеў», Уладзімір Бухаўцоў не змог выразна сфармуляваць, якія выразы ці словы зняважылі яго гонар і годнасць.

У пазове Бухаўцоў спасылаўся на зняты Жукоўскім відэаматэрыял, у якім паказаны кадры з удзелам Уладзіміра Бухаўцова і меўся надпіс з пытаннем: «МУС — гестапа?». Пры гэтым жыхары Лоева распавядалі пра беззаконне, якое чынілі мясцовыя міліцыянты ў дачыненні да іх саміх і іх знаёмых.

З ужываннем гвалту затрымлівалі ў Лоеве міліцыянты і самога Жукоўскага, які з напарнікам з дапамогай відэаздымкі імкнуўся адлюстраваць эканамічную сітуацыю ў райцэнтры.

Пасля чатырох пасяджэнняў суддзя цалкам адмовіла падпалкоўніку міліцыі Бухаўцову ў пазове. Калегія Гомельскага абласнога суда не знайшла падстаў адмяняць рашэнне суда Цэнтральнага раёна Гомеля, і рашэнне набыло законную моц.

## Андрэй Дзмітрыеў



**Міністэрства юстыцыі зарэгістравала Рэспубліканскае даследча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне «Гавары праўду».**

Гэта ці не першая рэгістрацыя «палітычнага» грамадскага аб'яднання ў Беларусі ледзь не за 10 гадоў. Апошні раз у 2008-м быў зарэгістраваны Рух «За Свабоду!». Кампанія «Гавары праўду», заснаваная ў 2010 годзе, рабіла шэсць спробаў рэгістрацыі, але яны былі марныя.

«Прынцыпова нічога не зменіцца, — сказаў кіраўнік «ГП» Андрэй Дзмітрыеў «Нашай Ніве». — Рэгіянальная праца ў прыярытэце, кампаніі па дэбюракратызацыі і падрыхтоўка да ўдзелу ў мясцовых выбарах».

На пытанне пра прычыны рэгістрацыі ва ўмовах, калі рэгіструюць далёка не ўсіх, Дзмітрыеў адказаў: «Будзем шчырымі: нас не рэгістравалі 7 гадоў. За гэты час мы выстаўлялі кандыдатаў на прэзідэнцкіх выбарах, на мясцовых. Дэ-факта мы былі прызнаныя, цяпер вось дэ-юрэ. Гэта жаданне ўлады захаваць і нармалізаваць стасункі з Захадам. Улада разумее, што наспелі перамены. Пратэсты мінулага месяца паказалі, калі ў краіне няма палітычнага дыялогу, калі апазіцыя не мае прадстаўніцтва на ўсіх узроўнях, дык нават 10 тысяч на вуліцах — гэта вялізная рызыка для палітычнай стабільнасці краіны. І мы спадзяемся, што «Гавары праўду» будзе не адзінай, а першай у спісе тых арганізацый, якія чакаюць рэгістрацыі», — сказаў Дзмітрыеў, і дадаў, што ад ідэі рэгістрацыі палітычнай партыі рух не адмаўляецца.

## Міхаіл Захараў



**Трэнер хакейнага клубу «Юнацтва—Мінск» знайшоў вінаватых у слабой гульні Беларусі на Чэмпіянаце свету па хакеі.**

Па словах Міхаіла Захарава, наша зборная так кепска згуляла таму, што ў краіне… не хапае лядовых палацаў! На яго думку, 32 крытых каткі для Беларусі вельмі мала, трэба 50–60. У Францыі, напрыклад, іх 135, у Швецыі, Расіі 300–500, не кажучы ўжо пра ЗША і Канаду.

Прычым, ён адзначыў, што нават тыя 32 лядовыя арэны, якія ёсць, не загружаныя, хакеісты там трэніруюцца ўсяго тры разы на тыдзень замест шасці. І лядовыя палацы не даюць той аддачы, якая неабходна.

Захараў у інтэрв'ю БелТА шмат каго крытыкаваў. Але калі яму задалі пытанне, ці прыняў бы ён прапанову стаць трэнерам зборнай Беларусі, ён ад адказу ўхіліўся.

Азбука паліталогіі

# «Вольная Беларусь» без беларусаў



Сяргей НІКАЛЮК

**Поспех рэформаў у першую чаргу залежыць ад здольнасці рэфарматараў ствараць кааліцыі ў сваю падтрымку.**

«Цвёрдасць пазіцыі, якую не ў сілах змяніць ход прайгранай бітвы, — характэрная прыкмета кіруючай меншасці ў грамадстве, якому пагражае распад. Кантраст з рухомасцю і шматгранnасцю творчых меншасцяў у грамадствах, якія развіваюцца, ашаламляльны», — адзначае Арнольд Тойнбі, гісторык.

Нагодай для цытавання класіка цывілізацыйнага аналізу стала публікацыя праграмы «Вольная Беларусь», падрыхтаванай калектывам аўтараў на чале з Зянонам Пазьняком. Праграма апублікаваная для абмеркавання. Гэтай прапановай на партале tut.by за некалькі дзён скарысталася 3000 чалавек, таму прапаную маю «Азбуку паліталогіі» лічыць 3001-м абмеркаваннем.

## Невясёлая сацыялогія

У першым абзацы дакумента палітычны рэжым у Беларусі названы недэмакратычным і аўтарытарным. Адзначаецца, што ён праводзіць палітыку прамаскоўскай унутранай акупацыі і русіфікацыі. Абмяркоўваць тут, на першы погляд, няма чаго. Палітыка кожнага аўтарытарнага і недэмакратычнага рэжыму можа разглядацца як акупацыйная. Гэта падставовая паліталагічная ісціна.

Звернемся па каментар да амерыканскага эканаміста Мансура Олсана, які разглядаў сучасныя дзяржавы як вынік супрацьстаяння паміж бандытамі-гастралёрамі і мясцовымі стацыянарнымі бандытамі. Калі першыя абіраюць насельніцтва па максімуму, дык другія «аптымізуюць забраныя ў насельніцтва даходы, пачынаюць зберагаць іх і інвеставаць», што стварае ўмовы для трансфармацыі бандытаў у кіраўнікоў-аўтакратаў.

Такім чынам, для правядзення палітыкі ўнутранай акупацыі ўладзе не абавязкова быць прамаскоўскай. Свая, родная ўлада з гэтай задачай здольная выдатна спраўляцца. Яна ж не па ўказанні з Масквы, а дзеля вырашэння ўласных задач зацікаўленая ў русіфікацыі.

Звернемся да табліцы, складзенай на падставе апытанняў НІСЭПД. У год першых прэзідэнцкіх выбараў у паўсядзённых зносінах карысталіся беларускай мовай 16%, праз тры гады — 6%, а яшчэ праз два — толькі 3%. Адкуль такая дынаміка? Ніякая палітыка русіфікацыі не магла быць яе прычынай, тым больш, што колькасць рускамоўных за гэты ж час не ўзрасла, а скарацілася!

Парадокс тлумачыцца проста. Перабудова перавяла насельніцтва былых рэспублік СССР са стану палітычнай апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння, складовай часткай якога стала нацыянальная (этнічная) мабілізацыя. Але ўжо да другой палове 1990-х гадоў яе рэсурс быў вычарпаны. Звярніце ўвагу на дынаміку варыянтаў адказаў: «руская і беларуская» і «змяшаная». У 1994 годзе прызнацца нават самому сабе ў выкарыстанні трасянкі рэспандэнту было няпроста. Але ў 1997 годзе ўсё ўстала на свае месцы.

У год першых прэзідэнцкіх выбараў будучы адзіны палітык (АП) дзейнічаў рацыянальна, калі зрабіў двухмоўе часткай сваёй выбарчай праграмы. У маі 1995 года на першым канстытуцыйным рэферэндуме за наданне рускай мове роўнага статусу з беларускай прагаласавала 83,2% ад колькасці тых, хто прыняў удзел у рэферэндуме. Неабходна падкрэсліць, што падлік галасоў забяспечвала даярмошынская ЦВК. Пра яе бесстароннасць сведчыць, у прыватнасці, яўка ў 64,8%. Праз паўтара года яўка падскочыла на 20 пунктаў — да звыклых па цяперашніх мерках 84,2%! Але гэта ўжо іншая гісторыя.

## Нібы вавёрка ў коле

Беларускае грамадства, на думку аўтараў дакладу, засела ў ХХ стагоддзі. У гэтым галоўны вынік антынароднага рэжыму. Прыметнікі «аўтарытарны» і «антыдэмакратычны» нязгоды ў мяне не выклікаюць. Але чаму рэжым антынародны?

У 1994 годзе на першых і апошніх свабодных прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі АП у другім туры падтрымала 80,3% выбаршчыкаў ад колькасці тых, хто прагаласаваў (56% ад спісачнага складу), ягонага апанента, прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча, — 14,2%. Паводле ўсялякіх мерак — больш чым пераканаўчая перамога!

Аднак звернемся да вынікаў першага тура. Кандыдаты ад нацыянальна-дэмакратычных сіл (Пазьняк, Шушкевіч) атрымалі на дваіх 22,7%, а іх ідэйныя апаненты з прасавецкага лагеру (Дубко, Кебіч, Лукашэнка, Новікаў) — 72,4% пры яўцы 79%. Калькулятар падказвае, што падтрымка другіх апынулася ў 3,2 разы вышэйшай. Больш пераканаўчай ілюстрацыі электаральнай структуры беларускага грамадства, мабыць, і не знайсці.




Але электаральная структура — гэта толькі вытворная ад сацыякультурнай структуры. За квартэт кандыдатаў у 1994 годзе галасавала сацыяльная перыферыя: пажылыя, з нізкім узроўнем адукацыі, якія пражываюць у малых гарадах і сельскай мясцовасці.

Першыя і ўсе наступныя прэзідэнцкія выбары зафіксавалі галоўную характарыстыку беларускага грамадства — раскол. Для разумення яго прыроды нам спатрэбіцца ўяўленне пра два тыпы ўзнаўлення культуры: статычны і інтэнсіўны.

Першы ўласцівы традыцыйнай цывілізацыі. Ён накіраваны на падтрыманне ўсіх сістэм грамадства ў нязменным стане ў адпаведнасці з уяўленнямі, што ідэалізуюць мінулае. Другі пануе ў ліберальнай цывілізацыі. Ён характарызуецца імкненнем пастаянна павышаць сацыяльную эфектыўнасць.

Сучасная Беларусь, безумоўна, выйшла за рамкі традыцыйнай цывілізацыі, але перайсці мяжу ліберальнай цывілізацыі так і не здолела. Яна затрымалася ў прамежкавым стане, які спалучае элементы абедзвюх цывілізацый.

«Раскол, — тлумачыць гісторык Аляксандр Ахіезер, — паталагічны стан грамадства, што характарызуецца супярэчнасцю паміж субкультурамі адной культуры». У нашым выпадку, гэта субкультуры, якія склаліся пад уплывам традыцыйнай і ліберальнай цывілізацый.

Расколатае грамадства — нібы вавёрка ў коле — бяжыць па крузе, бо актывізацыя каштоўнасцяў адной часткі грамадства прыводзіць у дзеянне сілы іншай часткі грамадства, якая адмаўляе гэтыя каштоўнасці. Як тут ні прыгадаць ліберальную хвалю, спароджаную перабудовай, а ўслед за ёй актывізацыю прадстаўнікоў сацыяльнай перыферыі. Іх электаральная актыўнасць і забяспечыла першую перамогу будучаму пентачэмпіёну.

## Хтосьці абавязкова дасягне поспеху

Якім чынам аўтары праграмы ўлічваюць раскол? Ніякім! Думаю, яны нават не падазраюць пра яго існаванне. Але гэта яшчэ паўбяды. На 76-ці старонках праекта новай Беларусі мне не ўдалося адшукаць раздзелу, прысвечанага аналізу сучаснага стану беларускага грамадства.

Тут напрошваецца паралель з дыялогам паміж Напалеонам і Лапласам, аўтарам пяцітомнай «Нябеснай механікі»:

— Вы напісалі такую вялікую кнігу пра сістэму сусвету і ні разу не згадалі пра Бога!

— Сір, я не меў патрэбы ў гэтай гіпотэзе.

Праграма «Вольная Беларусь» — гэта праграма крокаў на пераходны перыяд, якія неабходна зрабіць пасля змены рэжыму, для чаго спатрэбіцца Нацыянальная ідэя і людзі ідэі. Без актыўнай усенароднай падтрымкі, зразумела, не абысціся. Але калі сама сабой падтрымка не ўзнікне, дык яе неабходна будзе стварыць з дапамогай асветы грамадства.

Чаму такі арыгінальны спосаб змены рэжыму не быў рэалізаваны раней і чаму ён спрацуе ў найбліжэйшай будучыні, аўтары праграмы не тлумачаць. Тым не менш, усе іншыя схемы загадзя запісваюцца ў разрад абстрактнага папулізму.

Але ўявім, што гэта здарылася: антынародны рэжым ліквідаваны! Першы крок на шляху пераменаў — выбары ў парламент паводле абноўленай і скарэктаванай (!) Канстытуцыі 1994 года. Працэдура выбараў, натуральна, запатрабуе часу, таму на перыяд да шасці месяцаў улада павінна будзе перайсці да Нацыянальнага выканаўчага камітэту.

У свой час камуністам для ўтрымання ўлады спатрэбілася стварыць «новага чалавека». За 73 гады (тры пакаленні) задача была вырашана, але толькі часткова. І гэта нягледзячы на моц дзяржаўнай прапаганды, падмацаванай сілавымі структурамі. Біблейскі Майсей сорак гадоў (два пакаленні!) вадзіў свой народ па пустыні дзеля вырашэння аналагічнай задачы.

Спадзяюся, чытачы «НЧ» не забыліся, што беларускае грамадства, на думку аўтараў дакладу, засела ў ХХ стагоддзі. Такім чынам, і сёння структура каштоўнасцяў і палітычных пераваг беларусаў прынцыпова не змянілася ў параўнанні з лёсавызначальным 1994 годам.

Аб'ём «Азбукі паліталогіі» не дазваляе мне пералічыць канкрэтныя мерапрыемствы ў палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сферах, рэалізацыя якіх ужо праз пяць гадоў непазнавальна зменіць Беларусь да лепшага, а праз 10 гадоў выведзе яе ў шэраг магутных усходнееўрапейскіх краін.

Але адкуль вынікае, што план радыкальных мерапрыемстваў будзе падтрыманы большасцю? Поспех рэформаў у першую чаргу залежыць ад здольнасці рэфарматараў ствараць кааліцыі ў сваю падтрымку. Ні слова пра гэта ў праграме няма.

У тым, што рана ці позна цяперашні рэжым знікне, я не сумняваюся. Гэта будзе азначаць, што ў чарговы раз дзяржава фактычна распадзецца і ўлада апынецца ў брудзе. Пры гэтым, нібы прусакі са шчылін, палезуць ахвочыя яе з гэтага бруду дастаць... І хтосьці абавязкова дасягне вялікага поспеху. Але хто?

**ЯКОЙ МОВАЙ, У АСНОЎНЫМ, ВЫ КАРЫСТАЕЦЕСЯ Ў ПАЎСЯДЗЁННЫХ ЗНОСІНАХ?, %**

| Мова зносін | 11'94 | 11'97 | 03'99 | 06'15 |
|---|---|---|---|---|
| Беларуская | 16 | 6 | 3 | 3 |
| Руская | 68 | 41 | 42 | 69 |
| Руская і беларуская | 7 | 20 | 27 | 12 |
| Змяшаная | 6 | 35 | 27 | 16 |
| Іншая | 2 | 1 | 1 | – |

# Позна на Кітай спадзявацца, калі эканоміка ляснула

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

А ЕС (з якім Беларусь непасрэдна мяжуе) — той самы рынак, дзеля якога Кітай наогул выбудоўвае ўвесь гмах транзітнага шляху праз мацярык. Абʼём гандлю ЕС—КНР складае астранамічныя 1,5 мільярда еўра ў дзень.

Пры гэтым дастаўка тавараў па зямлі дае эканомію часу ў параўнанні з марскім шляхам: 12–16 сутак супраць 30 і больш. Гэтыя разлікі і ляглі ў аснову праекту спалучэння Шаўковага шляху з ЕАЭС. Бо больш выгаднай дарогі, чым праз Расію, Казахстан і Беларусь з іх Еўразійскім саюзам, папросту не адшукаць.

Урачыстае мерапрыемства, якое прайшло ў Пекіне, павінна было прадэманстраваць свету, што вылучаная старшынёй КНР Сі Цзіньпінам у верасні 2013 года ідэя адраджэння Шаўковага шляху развіваецца «ад перамогі да перамогі». Зрэшты, выніковая дэкларацыя форума пазбаўленая канкрэтыкі і напісаная ў духу «за ўсё добрае супраць усяго дрэннага». Хоць поспехі ёсць: у 2016 годзе агульны абʼём гандлю Кітаю з краінамі ўздоўж Шаўковага шляху склаў 954 мільярды долараў, або 25,7% ад агульнасусветнага абʼёму гандлю.

Апошнім часам беларускія ўлады робяць стаўку на Кітай як на шанец вярнуць «беларускі эканамічны цуд». Не выпадкова Лукашэнка 20 красавіка на сустрэчы з губернатарам Ніжагародскай вобласці Валерам Шанцавым, гаворачы пра крэдыты, не прамінуў заўважыць: «Расія ў нас па гэтых пытаннях не займае першае месца, на ім — Кітайская Народная Рэспубліка. Яна падала нам крэдытную лінію каля $15 мільярдаў пад рэалізуемыя ў Беларусі праекты, мы яе дагэтуль не выбралі. Самае галоўнае — яны нас не папракаюць у тым, што дапамагаюць нам».

Беларусь — не першая краіна экс-СССР, якая разлічвае значна падняцца на супрацоўніцтве з Кітаем. Але пакуль на постсавецкай прасторы адзіная дзяржава, якая багацее на эканамічных сувязях з Кітаем, — гэта Казахстан. І тое дзякуючы не кітайскім інвестыцыям, а таму, што Нурсултан Назарбаеў змог выгандлеваць для сябе велізарную колькасць выключэнняў з мытных правіл як СГА, так і ЕАЭС. Што дазволіла Казахстану стаць буйным гандлёвым цэнтрам, які пастаўляе кітайскія тавары ва ўсю постсавецкую прастору.

Праблема, аднак, у тым, што кітайцы спазніліся. Праект «Эканамічнага пояса новага Вялікага шаўковага шляху» не дасягне сваёй мэты і з часам стане толькі інструментам уплыву Кітая на постсавецкія краіны. Справа ў тым, што Кітай запускаў гэты праект грунтоўна, не спяшаючыся, ствараючы ўсю патрэбную інфраструктуру (на што, уласна, ён і накіроўвае свае інвестыцыі). Кітайцы да ўсіх буйных праектаў так падыходзяць.



Фота 4esnok

Але Пекін будаваў свае планы ў сітуацыі, калі Кітай быў галоўнай «сусветнай фабрыкай», а еўрапейцы — толькі спажыўцамі яго прадукцыі, гэткімі ж буйнымі, як і ЗША. Але сёння ўсё змяняецца. Новыя ўрады ЕС, імкнучыся палепшыць сацыяльную сітуацыю і стварыць працоўныя месцы, запускаюць у сваіх краінах рэіндустрыялізацыю, узнаўляюць вытворчасці. Дадайце сюды хуткае развіццё ў Еўропе невялікіх мясцовых прадпрыемстваў — зноў жа, дзякуючы новым тэхналогіям. Адсюль — падзенне попыту на кітайскі шырспажыў. Так, у бліжэйшыя гады будзе рост попыту на кітайскае прамысловае абсталяванне, але і гэта часова.

У самім Кітаі гэта пачынаюць разумець — летась інвестыцыі ў «Новы шаўковы шлях» знізіліся, паведамляе «Financial Times». Паводле дадзеных міністэрства гандлю, на якія спасылаецца выданне, прамыя замежныя інвестыцыі з Кітая ў краіны ў рамках праекту «Адзін пояс — адзін шлях», знізіліся на 2% у 2016 годзе і яшчэ на 18% у 2017-м.

Значыць, ужо праз некалькі гадоў мы сутыкнёмся з сітуацыяй, калі «Новы Вялікі шаўковы шлях» не будзе загружаны ў той ступені, у якой планавалі яго распрацоўшчыкі. Але кітайскія інвестыцыі ў постсавецкія краіны Пекін усё роўна захоча «адбіць». А значыць, плаціць давядзецца не толькі палітычнай лаяльнасцю, але і грашыма, прыроднымі рэсурсамі, зямлёй і ўсім іншым, што мае рэальную каштоўнасць.

Давайце ўспомнім і пра тое, што калі праект Шаўковага шляху набярэ абароты, беларускаму бізнесу давядзецца яшчэ мацней канкураваць з кітайскімі таварамі ў Расіі і на еўразійскім рынку. Цікава паглядзець, як ва ўмовах такой канкурэнцыі беларускія чыноўнікі будуць, скажам, «выводзіць у лідары айчынную лёгкую прамысловасць», як ім загадаў Лукашэнка.

## Беларусь як кітайская правінцыя

«У адносінах Беларусі з Кітаем у беларускага боку ад самага пачатку былі завышаныя чаканні. Было нашмат больш планаў, чым атрымалася рэальных вынікаў, — лічыць Валер Карбалевіч. — Былі вялікія надзеі на тэхнапарк «Вялікі камень». Але час ідзе — а выніку ніякага. Час ад часу зʼяўляюцца нейкія кітайскія кампаніі, якія гатовыя стаць рэзідэнтамі, — але далей справа не рухаецца. Ад пачатку лічылася, што там павінны размясціцца нейкія найноўшыя і высокатэхналагічныя вытворчасці. Але потым аказалася, што туды наогул ніхто не ідзе — ні з найноўшымі тэхналогіямі, ні з найстарэйшымі. У выніку там цяпер рэальна будуецца толькі лагістычны цэнтр — велізарны склад для перавалкі кітайскіх грузаў, накіраваных на рынак Еўрасаюза. Казаць пра нейкія інавацыі не даводзіцца.

Паводле словаў эксперта, шчодрыя кітайскія інвестыцыі папросту не засвойваюцца, бо ў Беларусі няма акупляльных праектаў, у якія можна было б укласці гэтыя грошы. Бо ўсе гэтыя інвестыцыі арыентаваныя на дзяржсектар, на дзяржаўныя прадпрыемствы. А дзяржаўны сектар у прынцыпе не здольны прапанаваць эфектыўныя праекты.

Гэта толькі адзін крытычны погляд на беларуска-кітайскае супрацоўніцтва. Але, як мне здаецца, на самай справе найбольш шчыра выказаўся амбасадар Беларусі ў Кітаі Кірыл Руды. Ён заявіў, што заработная плата ў Кітаі расце вельмі хутка. За мінулы год сярэдні заробак па краіне склаў $700, а ў некаторых правінцыях перавысіў $1000. Таму, паводле яго словаў, цяпер кітайскія кампаніі пачынаюць выносіць вытворчасці ў тыя краіны, дзе зарплаты ніжэйшыя.

Гэта значыць, калі яшчэ два дзясяцігоддзі таму развіція краіны пераносілі свае вытворчасці ў Кітай як у краіну «трэцяга свету» з таннай працоўнай сілай, то сёння ўжо Беларусь апынулася краінай «трэцяга свету» ў параўнанні з Кітаем.

Затое «прамысловую спадчыну Савецкага Саюза не прадалі алігархам».




# Не залаты ключык

**Беларусь прадае ў Кітай тавараў у чатыры разы менш, чым купляе. Але афіцыйны Мінск падкрэслівае, што Кітай зʼяўляецца стратэгічным партнёрам для Беларусі.**

Аляксандр Лукашэнка сам казаў, што Кітай — спрыяльны партнёр, які, у адрозненне ад Захаду, не гаворыць пра правы чалавека, не ставіць гэтае пытанне, і, у адрозненне ад Расіі, не патрабуе нейкіх геапалітычных саступак. І праўладныя палітолагі кажуць пра тое, што Кітай можа стаць геапалітычным апірышчам, спрабуюць падвесці грамадскасць да разумення той ролі, якую будзе адыгрываць Кітай нават як нейкая супрацьвага Расіі.

Дык у чым тое партнёрства? Тавараабарот ідзе на карысць Кітаю, крэдыты звязаныя, кітайскія інвестыцыі, кітайскія працоўныя прыязджаюць у Беларусь.

Афіцыйны Мінск відавочна ідзе на гэта менавіта з-за палітычнага сяброўства, стратэгічнага партнёрства. Але што яно можа прынесці Беларусі, акрамя нейкага галасавання ў ААН, дзе Кітай — адна са ста іншых краін, цяжка сказаць.

«У разважаннях пра такога кшталту супрацоўніцтва, візітаў і яго вынікі, варта ўстрымлівацца ад аднабаковых ацэнак. Адна ацэнка, якую часам даюць праўладныя палітолагі, што Кітай — вялікі сябра Беларусі, ён нам зараз заменіць Расію, і пальцы золата на Беларусь. Гэта не так», — лічыць Юры Дракахруст.

Паводле яго словаў, перабольшванне — і іншы падыход, што ўвогуле Кітай — гэта бізнесовец-махляр, што кітайцы ўсіх хочуць абдурыць і захапіць. Увесь свет гандлюе з Кітаем — і ЗША, і Еўрасаюз. Неяк вынікі атрымліваюцца. Той жа Казахстан гандлюе з Кітаем і мае на гэтым шмат выйгрышаў. І таму казаць, што для Беларусі супраца з Кітаем — гэта толькі жах і катастрофа, не варта.

«Кітай — велізарная багатая краіна. Той праект, які яны цяпер рэалізоўваюць, — класічны праект для Беларусі як для транзітнай краіны. Збудуюць там яны нейкія прадпрыемствы ці не збудуць — гэта пытанне, але лагістыку транзіту яны збудуюць безумоўна. За звязаныя крэдыты. Ну дык звязаныя крэдыты — гэта таксама грошы. Калі гэтая лагістыка запрацуе і будзе прыносіць даход, можна будзе расплаціцца з таго даходу і быць з прыбыткам ды з дарогай», — мяркуе Дракахруст.

Безумоўна, разлічваць на тое, што Кітай будзе ставіцца да Беларусі як да Ганконгу, нельга. Прычым стасункі не будуць такімі ж і ў пытанні завозу кітайцаў у Беларусь. У Казахстане гэта частковая праблема, таму што ёсць мяжа з Кітаем. Праз тысячу кіламетраў велізарную колькасць людзей ніхто не будзе весці.

Супраца з Кітаем — не залаты ключык для беларускай эканомікі, але і не заведамы правал, сама па сабе сітуацыя, а менавіта транзітныя перавагі Беларусі і адносна танная працоўная сіла, — гэта падставы для таго, каб супраца мела ці магла б мець плён.

**Паводле «Радыё Свабода»**

Зінаіда ЦІМОШАК

# Як са спецыялістаў

**Звальненні ў сувязі з заканчэннем тэрміну працоўнага кантракту — з'ява звыклая і нікога не здзіўляе. Пункт 2 артыкула 35 Працоўнага кодэксу прадугледжвае права наймальніка звольніць работніка без аніякага матыву і тлумачэння — у сувязі з заканчэннем тэрміну кантракту.**

Практыка паказвае, што колькі б звольнены чалавек ні тлумачыў у судзе пра сваю адданую і сумленную працу на карысць прадпрыемства, высокую кваліфікацыю, наяўнасць непаўналетніх дзяцей — суд звычайна гэтым не цікавіцца. Наймальніку дадзены вельмі шырокія паўнамоцтвы, і ён імі карыстаецца напоўніцу.

І ўсё ж такі цэлая серыя звальненняў спецыялістаў у сельскагаспадарчым прадпрыемстве ў вёсцы Праснакі Капыльскага раёна выклікала цікавасць. Па сведчанні жыхароў, з прыходам новага дырэктара Віталя Платуна, з кастрычніка 2015-га па сакавік 2017 года з ААТ «Праснакі» былі звольнены амаль усе мясцовыя спецыялісты: галоўны заатэхнік, галоўны інжынер, галоўны эканаміст, спецыяліст аддзела кадраў, сакратар, загадчык майстэрняй, юрыст…

Дырэктар ААТ «Праснакі» Віталь Платун патлумачыў, што амаль усе былыя спецыялісты звольніліся самі, па ўласным жаданні, і, апроч былога вядучага эканаміста не маюць ніякіх прэтэнзій. З Раманам Сімановічам, галоўным эканамістам, не згодным са звальненнем, кантракт не працягнуты ў сувязі з заканчэннем 2-гадовага тэрміну дамовы. Прычына — запрашэнне на яго месца спецыяліста з вышэйшай аграэканамічнай адукацыяй.

Па словах дырэктара, Раману Сімановічу не хапіла прафесійных ведаў, каб скласці бізнес-план.

— Паводле Указу 253 кіраўніка дзяржавы, наша гаспадарка была ўключана ў шэраг прадпрыемстваў, якія падлягалі аздараўленню. Раман Сімановіч фактычна адмовіўся скласці бізнес-план, бо заявіў, што для гэтага яму не хапае прафесійных ведаў. Па адукацыі, якую ён атрымаў у каледжы, ён — бухгалтар, а не эканаміст, — кажа кіраўнік гаспадаркі.



> **Пасля заканчэння каледжу мяне размеркавалі ў Праснакі. Працавала па сваёй спецыяльнасці, пакуль не трапіла ў бальніцу на 3 месяцы. Пасля выпіскі мяне гвалтоўна перавялі ў дыспетчары — не па спецыяльнасці. Паставілі перад выбарам: альбо звальненне, альбо праца дыспетчарам**

Не пацвердзіў дырэктар і інфармацыю пра гвалтоўна звольненых людзей.

— Гэта ўсё плёткі, на самай справе, усе, хто хоча, працуюць, — заявіў наймальнік.

Пры размове з людзьмі высветлілася, што не ўсё так проста, і ў Праснаках ёсць людзі, якія лічаць, што кіраўніцтва абышлося з імі несправядліва.

Ганна Нікіфарава, якая сумяшчала працу ў аддзеле кадраў і працу сакратара, звольнілася летам 2016 года таксама «па ўласным жаданні».



— Пасля заканчэння каледжу мяне размеркавалі ў Праснакі. Працавала па сваёй спецыяльнасці, пакуль не трапіла ў бальніцу на 3 месяцы. У маю адсутнасць была зладжана праверка, нібыта дзеля таго, каб праверыць мае памылкі і пасля навучыць мяне, як маладога спецыяліста, — распавяла Ганна. — Замест гэтага, пасля выпіскі з лякарні, мяне гвалтоўна перавялі працаваць дыспетчарам — не па спецыяльнасці. Паставілі перад выбарам: альбо прымусовае звальненне, альбо праца дыспетчарам.

Ганна, тым не менш, дапрацавала дыспетчарам да заканчэння тэрміну адпрацоўкі, і ў ліпені 2016 года звольнілася «па ўласным жаданні».

— У мяне цукровы дыябет і некаторыя іншыя праблемы. Патрэбна вялікая мускульная

# «Хутка будуць хаваць

Марыя ВЕРАС

**Яшчэ ў 1989 годзе жыхарам вёскі Варкавічы Слуцкага раёна паабяцалі закрыць могілкі ў цэнтры і знайсці іншае месца для пахаванняў. Але новыя магілы паўстаюць ужо ледзь не ў агародах вяскоўцаў.**

На скаргі вяскоўцаў у райвыканкам наконт пашырэння могілак старшыня сельвыканкама Міхаіл Сакалоўскі бадзёра адказваў, што дзеянні сельвыканкама абмяжоўваюцца высяканнем непатрэбных дрэў і добраўпарадкаваннем.

У 2015 годзе Слуцкі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі строга забараніў новыя пахаванні на сельскіх могілках у вёсцы Варкавічы (падпісанне № 126 ад 31.03.15). Але да гэтага часу тут працягваюць хаваць. Пасля мноства скаргаў суд



Слуцкага раёна 15 верасня 2015 вырашыў папярэдзіць старшыню Сеpажскага сельвыканкама Сакалоўскага М. А.

Пасля таго, як знеслі клуб, тэрыторыя могілак настолькі пашыралася, што ўшчыльную падступіла да плоту і агароду пенсіянеркі Марыі Іллінічны Бабінскай.

Марыя Бабінская і яе суседка Тамара Барысік распавялі пра наступствы блізкага суседства з могілкамі.

— Санстанцыя праверыла якасць вады ў нашых калодзежах — і забараніла адтуль піць, бо ў вадзе мноства непатрэбных і жыццёва небяспечных бактэрый, а колькасць нітратаў перавышае норму болей чым у 3 разы, — гавораць суседкі.

Па словах Тамары Барысік, іншых крыніц вады, апрача калодзежаў, у вёсцы няма. «На бутэляваную ваду грошай не напасешся, — скардзіцца пенсіянерка. — Ужо 20 гадоў просім вырашыць пытанне з адвядзеннем новага месца для пахаванняў, а старшыня Сеpажскага сельскага выканкама Міхаіл Сакалоўскі да гэтага часу нічога не зрабіў».

Санстанцыя забараніла на гэтых могілках хаваць новых людзей, аднак у лютым 2017 года тут знайшлі апошні прытулак два чалавекі са Слуцка.

Тамара Барысік расказала, што на Радаўніцу, калі на могілках сабралася шмат людзей, старшыня сельвыканкама арганізаваў там натуральны мітынг і заклікаў людзей дабівацца дазволу пахаванняў.

— Людзі ж пыталі: «А дзе ўжо тут хаваць? Могілкі даўно запоўненыя. Хіба вешаць труны на дрэвах ці закопваць іх у агародах?»

Марыі Іллінічне Бабінскай ужо 78 гадоў. Могілкі настолькі шчыльна падышлі да яе хаты, што пачынаюцца адразу за плотам.

— Дзеці і ўнукі баяцца сюды прыязджаць. Кажуць, што я ўжо жыву на могілках. І не хочуць праводзіць адпачынак побач з памерлымі. Мой агарод знаходзіцца крыху ніжэй за пахаванні, нават баюся думаць, чым можа падкормлівацца агародніна, якая, дарэчы, аж буяе. Куды мы толькі ні звярталіся, — працягвае Марыя Ільінічна. — Нават у праграму «Времечко», якая, дарэчы некалькі разоў уздымала гэту тэму. Гэта ж падумаць толькі — амаль 20 гадоў улады не могуць знайсці новае месца для пахаванняў, прыбліліся толькі да майго агароду.

На працягу апошняга года жыхары вёскі пішуць ва ўсе інстанцыі і просяць у зваротах знайсці новае месца для пахаванняў. Звярталіся ў райвыканкам, аблвыканкам, генеральную пракуратуру, праграму «Вре-

# робяць «дармаедаў»

сіла і на тое, каб адчыняць і зачыняць цяжкія дзверы перад заездам механізатараў, — тлумачыць Ганна. — Зараз не працую. Муж працуе механізатарам, яго грошай на сям'ю не хапае, бо мне трэба траціцца і на лекі.

Былы галоўны эканаміст Раман Сімановіч адпрацаваў у ААТ «Праснакі» два гады. Прычыну непрацягнення кантракту з ім — запрашэнне на яго месца спецыяліста з вышэйшай кваліфікацыяй — Раман лічыць абсурднай. Бо сур'ёзных заўваг па працы і прэтэнзій па яго кваліфікацыі, па яго словах, не было. Да таго ж у гэтым годзе ён таксама атрымлівае вышэйшую эканамічную адукацыю.

— Мне даводзілася сумяшчаць працу галоўнага эканаміста, бухгалтара і сакратара, — распавёў Сімановіч. — Усё было нармальна, пакуль я не стаў адстойваць правы працаўнікоў прадпрыемства. Напрыклад, калі не хапала грошай на выплату заробкаў, дырэктар вусна загадаў мне неабгрунтавана зменшыць расцэнкі за адзінку прадукцыі. Паколькі гэткім чынам я павінен быў парушыць закон і несці адказнасць за гэта перад праваахоўчымі камісіямі, я папрасіў даць пісьмовае распараджэнне.

У другім выпадку, па словах Сімановіча, ён адмовіўся паменшыць заробленыя грошы механізатару.

— Дырэктару падалося, што механізатар Н. занадта многа зарабіў грошай, таму загадаў панізіць яму заробак. Пры гэтым я павінен быў сам прыдумаць, якім чынам гэта зрабіць. Я адмовіўся, і адносіны з кіраўніком пасля гэтага яшчэ больш пагоршыліся.

Да таго ж жонка Рамана актыўнічала ў барацьбе за захаванне ў Праснаках дзіцячага садка і ФАП, магчыма, гэта не спадабалася раённаму кіраўніцтву.

Паводле словаў спецыяліста, першапачаткова дырэктару была даспадобы яго прафесійная праца, і ён нават хадайнічаў перад райвыканкамам, каб паставіць Сімановіча сваім намеснікам.

Сітуацыю з няўдалым бізнес-планам Сімановіч патлумачыў наступным чынам:

— Калі пайшлі першыя чуткі пра Указ № 253, аддзел эканомікі ўпраўлення сельскай гаспадаркі Капыльскага раёна, якому я павінен падпарадкоўвацца, даслаў нам прайс-лісты кансалтынгавых кампаній па распрацоўцы бізнес-планаў. Мы павінны былі абраць таннейшыя кампаніі, каб яны распрацавалі гэты план у кароткі тэрмін. Мы заключылі дамову з кампаніяй, павінны былі здзейсніць перадаплату. Наш дырэктар шукаў на гэта грошы два тыдні, не знайшоў, хоць сума была невялікая, і абавязаў мяне напісаць гэты план. Часу ж на яго распрацоўку ўжо амаль не было, прыйшлося гэтае заданне выконваць у жорсткі тэрмін. Зразумела, што ён не быў распрацаваны належным чынам, яго не прынялі.

З сакавіка 2017 года Раман знаходзіцца ў пошуках працы. Бліжэйшае месца, якое яму прапанавалі, — у іншым сельскагаспадарчым прадпрыемстве, у 40 кіламетрах ад месца, дзе пражывае сям'я. У Рамана двое дзяцей, праз месяц чакаецца нараджэнне трэцяга.

Яшчэ адну гісторыю распавёў бацька 4-х дзяцей Вячаслаў Марціновіч, які таксама вымушаны мяняць месца працы:

— Я працаваў кіроўцам, які знаходзіцца «на падхвацe», — развозіць рабочых на розныя месцы, выконвае іншыя транспартныя даручэнні. Звычайна працоўны дзень пачынаўся ў 4 гадзіны раніцы і заканчваўся ўвечары — з невялікімі перапынкамі. Атрымліваў за працу 500 рублёў, як за звычайны працоўны дзень. Прыходзілася вазіць людзей на аварыйным транспарце, без тэхагляду. Трапляўся з-за гэтага на вока даішнікам, некалькі разоў аплачваў штрафы. У адзін з красавіцкіх дзён гэтага года стаяў на рамонце і адпрацаваў належным чынам свой 7-гадзінны рабочы дзень (на рамонце ён доўжыцца з 8-00 да 16-00). Пасля 16-00 атрымаў загад прадоўжыць працу, бо прывезлі запчасткі. Трэба было ў гэты ж дзень скончыць рамонт, вечарам паразвозіць людзей, а назаўтра зноў зранку заступіць на працу. Я адмовіўся, бо адчуваў сябе стомленым, а за руль у гэтым стане нельга.

На мяне была складзеная дакладная запіска, што я пакінуў рабочае месца ў 16-00. Назаўтра быў адхілены ад працы, а сакратарка дырэктара перадала мне ліст дырэктара з пажаданнем, каб я напісаў заяву аб звальненні па ўласным жаданні без пастаўленай даты. Я напісаў.




**З кастрычніка 2015-га па сакавік 2017 года з ААТ «Праснакі» былі звольнены амаль усе мясцовыя спецыялісты: галоўны заатэхнік, галоўны інжынер, галоўны эканаміст, спецыяліст аддзела кадраў, юрыст**

Тыдзень прасядзеў, чакаючы звальнення. Зараз кажуць, што дырэктар маю заяву ліквідаваў, а «прагул» афармлены ў выглядзе чаргoвага адпачынку з 20.04 па 01.05. Паколькі на маім месцы ўжо працуе іншы чалавек, мне прапанавана быць падменным ахоўнікам на фермах і праца на бычніку. Канчатковае рашэнне я яшчэ не прыняў. Мне толькі не зразумела, чаму мне нягледзячы на перапрацоўку, ставілі толькі 7 гадзін працы, а новаму кіроўцу плацяць як за 12 гадзін.

Даведаўшыся пра прычыну майго прыезду, некалькі вяскоўцаў, якіх я сустрэла ў краме, выказалі свае меркаванні аб звальненнях.

Адзін мужчына пенсійнага ўзросту ўхваліў дзеянні дырэктара і лічыць, што такім чынам ён наводзіць парадак:

— Начальнік для таго і існуе, каб падначаленыя выконвалі ўсе загады. Да таго ж простыя рабочыя атрымліваюць неблагую зарплату, значыць, дырэктар у Праснаках знаходзіцца на сваім месцы, — выказаў думку Уладзімір Іванавіч.

Двое ж іншых лічаць, што дырэктар несправядліва абышоўся і з Сімановічам, і з іншымі.

— Заробак больш-менш прыстойны мы атрымліваем, паколькі зараз знаходзімся пад наглядам Слуцкага цукровага завода. Не думаю, што тут асаблівая заслуга Платуна. Звольніў галоўнага эканаміста, які мае тут жыллё, дваіх дзяцей і цяжарную жонку. Разумны, прыстойны і добры чалавек, заўсёды цвярозы, сумленны, веруючы. Цяпер яму трэба шукаць працу і некуды ездзіць. Панабіраў спецыялістаў са Слуцка — ездзяць кожны дзень больш за 20 кіламетраў на працу да нас галоўны бухгалтар, галоўны інжынер, загадчык майстэрні, эканамістка, прараб, аддзел кадраў, бухгалтар. Не думаю, што яны запраўляюцца палівам за свой кошт. Мала галоўнага бухгалтара — з'явіўся памочнік галоўнага бухгалтара. Новым людзям патрэбна ж будзе і жыллё, а калі яны тут не паселяцца, не будуць зацікаўлены ні ў ФАПе, ні ў дзіцячым садку, ні ў рамонце разбуранай дарогі, якая вядзе да крамы, — падзялілася думкамі жанчына, якая не назвалася.

— Навошта было звальняць маладых спецыялістаў, якія тут жывуць і хацелі працаваць? Калі якія памылкі і зрабілі, яны ж — маладыя, падвучыліся б крыху і хай бы працавалі па месцу жыхарства. Неяк не па-людску ўсё выглядае, — выказаў сваё меркаванне сталы чалавек, які папрасіў не называць прозвішча, каб не прычыніць шкоду блізкім.

# на маім агародзе»

мечко», Мінскі абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі.

З ліста Марыі Бабінскай у праграму «Времечко» ў сакавіку 2017 года: «Нягледзячы на тое, што санстанцыяй пахаванні афіцыйна забароненыя і сельсавет каля ўваходу на могілкі вывесіў адпаведную таблічку, ён сам жа і парушае гэтыя правілы.

Старшыня сельсавета Сакалоўскі М.А. даў дазвол на пахаванне на сельскіх могілках у вёсцы Варкавічы грамадзян, якія жылі ў Слуцку... 11 лютага я ўбачыла, што на могілках зноў капаюць магілу. Я падышла да людзей, якія там працавалі, і сказала, што пахаванні тут забароненыя. Яны мне адказалі, што ім дазволіў асабіста Сакалоўскі М.А. і яны з ім вусна дамовіліся.

У той жа дзень я па тэлефоне спыталася Сакалоўскага М.А., чаму ён даў дазвол на пахаванне. Ён адказаў: «Знайшла мяне чым палохаць — «Времечком!». У нас тут свая ўлада, нават прэзідэнт табе не дапаможа. Каму хачу, таму і даю дазвол».

Яшчэ праз 13 дзён, 24 лютага 2017 года, каля плоту Марыі Бабінскай зноў з'явілася пахаванне. Жанчына распавяла, што ў мінулым годзе на «закрытых» могілках пахавалі жанчыну, якая ўсё жыццё пражыла ў Маскве: «Зімой у 7 гадзін раніцы блізенька за плотам хаты засвяціліся ліхтарыкі. Убачыла некалькі мужчын, якія капалі зямлю. Крычу: «Што вы робіце?» А яны адказваюць: «Труны выкопваем». Выклікалі з суседкай міліцыю, старшыню сельвыканкама Міхаіла Сакалоўскага. А ён кажа: «Хутчэй бы ты памерла, дык знеслі б тваю хату!».

Марыя Іллінічна хадзіла на прыём і да старшыні райвыканкама, але, нягледзячы на ўсе яе паходы і шматгадовую перапіску з рознымі інстанцыямі, справа дасюль не вырашана.

Трэба адзначыць, што хоць пенсіянерка найперш абвінавачвае старшыню сельвыканкама Міхаіла Сакалоўскага, з перапіскі з ім высветлілася, што пасля судовага прадпісання ў 2015 годзе ён усё ж хадайнічаў пра выдзяленне новага месца пад пахаванні.

Для падрыхтоўкі неабходных дакументаў быў задзейнічаны праектны інстытут. Акт выбару месца ўзгадняўся з паўнамоцнымі службамі раёна, але не быў зацверджаны Мінскім аблвыканкамам. У адказе з аддзелу жыллёва-камунальнай гаспадаркі Мінскага аблвыканкама ад 20.04.2016 года ідзе размова пра «необоснованное изъятие пахотных земель для указанных целей и предложено рассмотреть вариант размещения объекта на несельскохозяйственных землях, либо на землях с наименьшим баллом кадастровой оценки».

Яшчэ адзін адказ з гэтага ж органа ўлады, атрыманы ўжо ў снежні 2016 года, паўтарае сутнасць папярэдняга і ўтрымлівае рэкамендацыі хаваць на гэтых могілках толькі попел у адмысловых урнах.

Час ідзе, а іншай зямлі для могілак, апрача агароду Марыі Бабінскай, да гэтага часу мясцовыя ўлады не знайшлі. Жывому чалавеку даводзіцца жыць каля свежых магіл, чакаць новых пахавальных шэсцяў праз дзірку ў плоце.



**Дзеці і ўнукі баяцца сюды прыязджаць. Кажуць, што я ўжо жыву на могілках. І не хочуць праводзіць адпачынак побач з памерлымі. Мой агарод знаходзіцца крыху ніжэй за пахаванні, нават баюся думаць, чым можа падкормлівацца агародніна, якая, дарэчы, аж буяе**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ЛІБЕРЫЯ. Эпідэмія — сябра кіно

Вядома, што эпідэміі могуць выклікаць не толькі негатыўныя, аднак і прагрэсіўныя наступствы. Славутая «чорная смерць» — пандэмія чумы ў 1346–1353 гадах у Еўропе — заклала бомбу пад феадальную сістэму. Яшчэ адной ілюстрацыяй феномену эпідэмій стала сучасная Ліберыя — нядаўняя ахвяра Эболы. Каб лакалізаваць эпідэмію, дзяржава і міжнародныя арганізацыі абвясцілі ў 2014-м нацыянальны каранцін. У выніку вялікая частка насельніцтва апынулася ізаляванай ад свету, і ў тым ліку ад кінапрадуктаў. Момантам скарысталіся мясцовыя кінематаграфісты, якія пачалі актыўна здымаць свае стужкі. У выніку кінарынак Ліберыі пачаў квітнець аж да таго, што паўстаў тэрмін Lollywood. Праўда, мастацкі ўзровень таго, што робіцца у Lollywood, — не самы высокі. Тым не менш, за кошт мясцовага каларыту Lollywood аказаўся настолькі запатрабаваным, што здолеў захавацца як індустрыя нават пасля таго, як у 2015-м каранцін адмянілі, і ў Ліберыю зноў пайшлі замежныя стужкі. На мінулым тыдні ў краіне правялі першы ў гісторыі кінафестываль нацыянальнага кіно.

**Паводле нігерыйскай прэсы**

### РАСІЯ. Як не паўстала ВНР

Расійская журналістка Галіна Сапожнікава напісала кнігу «Хто каму здрадзіў», дзе распавяла пра малавядомыя падзеі на мяжы Літвы і Беларусі напачатку 1990-х. Паводле аўтаркі, на восень 1991 года ў Віленскім краі рыхтавалася абвяшчэнне польскай аўтаноміі. Базай для аўтаноміі павінен быў быць Шальчынінкайскі раён, які на той момант фактычна і так быў аўтаномным. Мясцовая адміністрацыя працягвала падпарадкавацца савецкаму ўраду, атрымлівала ад яго падтрымку праз Мінск. Паступова сярод мясцовых кіраўнікоў паўстаў праект юрыдычнага афармлення аўтаноміі. Апошні раз ініцыятары праекту сустракаліся 15 жніўня, і толькі путч 19 жніўня прымусіў змоўнікаў адмовіцца ад ідэі. Сапожнікава не піша, ці былі Масква або Мінск у курсе планаў кіраўніцтва Шальчынінкая, аднак значна цікавейшы іншы фрагмент. Са спасылкай на былога старшыню райвыканкама сцвярджаецца, што пра ідэю стварэння аўтаноміі ведалі ў Варшаве. Больш таго, быццам бы ініцыятараў аўтаноміі наведаў эмісар з Польшчы, які прапанаваў вайсковую падтрымку ў выпадку канфлікту з урадам Літвы. Паколькі аматары аўтаноміі Віленшчыны арыентаваліся на Маскву і Мінск, ад прапановы Варшавы яны адмовіліся.

**Паводле расійскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Абразанне як крыніца тэрарызму

Казахскія феміністкі і атэісткі заклікалі Назарбаева забараніць на тэрыторыі краіны практыку абразання. У прынцыпе, нічога дзіўнага, на першы погляд, тут няма. На Захадзе прагрэсіўная грамадскасць даўно змагаецца супраць абразання. Маўляў, ніхто не мае права прымаць рашэнне за дзіця, калі гэта тычыцца пытання здароўя. Феміністкі таксама лічаць, што мужчынскае абразанне адмоўна адбіваецца на сексуальнай актыўнасці мужчын, таму яго можна расцэньваць як факт дыскрымінацыі жанчын. Акрамя таго, казахскімі феміністкамі былі агучаныя вельмі незвычайны тэзіс: абразанне вядзе да «тэрарызму і рэлігійнага экстрэмізму». «Як паказвае статыстыка, неабрэзаныя мужчыны больш дэмакратычныя і талерантныя, чым абрэзаныя», — гаворыцца ў дакументах феміністак. Аднак і гэта яшчэ не ўсё. Феміністкі таксама плануюць пачаць кампанію за аднаўленне адрэзанай плоці і абяцаюць сваімі намаганнямі ў бліжэйшы час адкрыць у Казахстане адпаведную клініку, аналагаў якой няма ў свеце.

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Страсці вакол Еўрабачання

Хаця апошні конкурс «Еўрабачання» ў Кіеве закончыўся, скандалы вакол яго працягваюцца. У Вялікабрытаніі патрыятычная грамадскасць лічыць, што журы наўмысна ставіла нізкія адзнакі брытанскай канкурсантцы Люсі Джонс (15-е месца). Бо, маўляў, сябры журы атрымалі з Брусэлю інструкцыю — адпомсціць Лондану за Brexit. З улікам гэтага еўрафобы прапануюць Вялікабрытаніі наогул адмовіцца ад удзелу ў конкурсе. Да байкоту конкурсу заклікаюць і правыя партыі ў Польшчы. Лідар правапапулістаў Павел Кукіз лічыць, што слабы вынік польскай прадстаўніцы Касі Мось (22-е месца) — не што іншае, як пакаранне за тое, што Кася адмовілася выглядаць на сцэне як прадстаўніца сексуальных меншасцяў або крытык польскага нацыяналізму. Самы буйны скандал, натуральна, выбухнуў у Кіеве, дзе пранкер Віталь Сядзюк зняў штаны на сцэне «Еўрабачання» падчас выступу спявачкі Джамалы. Пасля інцыдэнту ён быў затрыманы і адпраўлены ў турму пад камментар дырэктара МУС Арсена Авакава, які паабяцаў хулігану пяць гадоў пакарання і сексуальныя здзекі ў камеры. Такая жорсткая пагроза з боку чыноўніка для шмат каго нечакана перастварыла акт Седзюка ў сімвалічны акт пратэсту супраць улады. Праўда, у панядзелак, 15 мая, Сядзюк быў выпушчаны пад нагляд паліцыі, хоць яму і забаранілі выезд з краіны.

**Паводле замежнай прэсы**



Фота www.24smi.org

# Ці хацеў Кім забіць Кіма?

*Алег НОВІКАЎ*

**Пхеньян рапартуе: план забойства лідара КНДР з дапамогай радыяцыйнай зброі выкрыты. Пры ўсёй камічнасці заявы, якая нагадвае фабулы раманаў пра Джэймса Бонда, яе наступствы могуць быць вельмі сур'ёзнымі.**

Дадатковага смаку ўсёй гэтай гісторыі дадае экзатычная для нашага вуха лексіка камюніке паўночнакарэйскага афіцыёзу. Паводле паведамленняў з Паўночнай Карэі атрымліваецца, што не так даўно ў Вашынгтоне і Сеўле «пачалі губляць прытомнасць ад бурлівага духу Рэспублікі, якая імкліва прасоўваецца наперад да канчатковай перамогі рэвалюцыйнай справы чучхэ».

Але антаганісты ідэй чучхэ паступова прыйшлі ў сябе ды вырашылі, што трэба нешта рабіць. Для гэтага яны знайшлі на расійскім Далёкім Усходзе нейкага гастарбайтэра з КНДР па прозвішчы Кім, якога вырашылі «ідэйна перарадзіць».

Пасля таго, як Кім «ідэйна перарадзіўся», яму даручылі адправіцца ў сталіцу КНДР, дзе 15 красавіка маштабна святкуюць дзень нараджэння Кім Ір Сена — бацькі-заснавальніка КНДР. Падчас вайсковага параду агент павінен быў атруціць лідара Кім Чэн Ына радыеактыўнымі матэрыяламі, якія былі «зробленыя з дапамогай нанатэхналогій».

Смяротная развязка для атручанага радыяцыяй Кім Чэн Ына павінна была надысці не адразу, а толькі праз год. Таму ў забітым Кіме былі ўсе шанцы пасля заканчэння ўрачыстасцяў спакойна пакінуць месца злачынства. Пасля Кім, паводле плану, павінен быў перабрацца ў Кітай, дзе яго ўжо чакала «бочка варэння і скрыня пячэння» ў выглядзе прыкладна 200 тысяч долараў.

Што тычыцца лёсу Паўночнай Карэі, праз нейкі час яе чакаў урадавы крызіс пасля нечаканай смерці Кім Чын Ына. Выкліканая сконам правадыра паніка ў соцыуме павінна была дазволіць празаходняй апазіцыі, якую падтрымлівае частка бюракратаў, лёгка прыйсці да ўлады. І, натуральна, толькі мужнасць і пільнасць паўночнакарэйскіх чэкістаў не дазволілі падступнаму плану ворага рэалізавацца.

Як і трэба было чакаць, працоўныя Паўночнай Карэі ўспрынялі інфармацыю пра новы подзвіг родных сілавікоў з вялікім энтузіязмам. Ім таксама спадабалася тое, што пракурор КНДР вуснамі спікера мясцовага МЗС запатрабаваў выдачы з Паўднёвай Карэі і ЗША ўсіх асобаў, падазраваных Пхеньянам у замаху на Кім Чэн Ына.

У сваю чаргу, у Сеуле ўсё абвінавачванні з Поўначы адмаўляюць, указваючы на шэраг прабелаў у версіі паўночных спецслужбаў.

Варта адзначыць, што ў гісторыі КНДР спецслужбы рэгулярна выкрываюць замахі на сяброў кіруючай з 1945 года дынастыі Кімаў.

Некаторыя з гэтых замахаў выглядаюць вельмі экзатычна. Паводле аднаго з файлаў, у 1968-м Сеул стварыў групу камандас з задачай забіць Кім Ір Сена. Праз тры гады трэніровак падрыхтаваных баевікоў накіравалі ў Паўночную Карэю. Аднак пакуль кілеры ішлі да мяжы з КНДР, яны раптам зразумелі вялікую мудрасць вучэння чучхэ. І першае, што зрабілі чучхэісты-неафіты, — забілі амерыканца-трэнера з ЦРУ ды пастанавілі замест Кім Ір Сена зрабіць замах на тагачаснага прэзідэнта Паўднёвай Карэі. Праўда, спецслужбы на Поўдні нейкім чынам паспелі атаку адбіць.

**Вылазкі спецслужбаў КНДР на Поўдзень маглі быць рэакцыямі на прыдуманыя генераламі або апаратчыкамі фантомныя пагрозы, у якія па розных прычынах паверылі правадыры чучхэ**

Зрэшты, на Поўначы не толькі абараняліся ад вылазак з Поўдня. Па той бок 38-ай паралелі таксама кажуць пра шматлікія замахі і тэракты, за якімі стаялі паўночнакарэйскія спецслужбы. У тым жа 1968 годзе разведка з КНДР спрабавала забіць тагачаснага прэзідэнта Паўднёвай Карэі, адкрыўшы стральніну па яго рэзідэнцыі. У 1983 годзе падчас візіту Чон Ду Хвана (тагачасны кіраўнік Паўднёвай Карэі) у маўзалей заснавальніка сучаснай Бірмы ў будынку выбухнула бомба. Было забіта каля 20 чалавек, аднак Чон Ду Хван спазніўся і цудам застаўся жывы. Апошняя буйная аперацыя разведчыкаў з КНДР мела месца ў 2011 годзе, калі агенты Пхеньяна спрабавалі забіць крытыка чучхэ, які жыве ў Сеуле. Калі верыць крыніцам з Паўднёвай Карэі, паўночныя карэйцы планавалі забіць ахвяру на станцыі метро з дапамогай атручанай асадкі.

Варта ўзгадаць і пра таямнічае забойства ў лютым 2017-га ў Малайзіі, калі быў атручаны старэйшы брат Кім Чэн Ына. Мяркуюць, што спецслужбы КНДР палявалі на нябожчыка, паколькі баяліся, што Кітай можа выкарыстаць яго ў барацьбе за ўладу ў КНДР. Улады КНДР, у сваю чаргу, кажуць пра правакацыю ворагаў з мэтай ачарніць міжнародны імідж ідэй чучхэ ды выставіць лідара КНДР забойцам роднага брата.

У прэсе не выключаюць, што згаданыя вылазкі спецслужбаў КНДР на Поўдзень маглі быць рэакцыямі на прыдуманыя прыдворнымі генераламі або апаратчыкамі фантомныя пагрозы, у якія па розных прычынах паверылі правадыры чучхэ. Магчыма, Кім Чэн Ын таксама намагаецца падсунуць падобны фэйк — толькі пра замах на яго з дапамогай радыяцыйнай зброі. Такім чынам, хутка можна чакаць нейкіх радыяцыйных замахаў на палітыкаў Паўднёвай Карэі. Як адзначае ў сувязі з гэтым адно з амерыканскіх выданняў, «у параноідальным космасе Паўночнай Карэі ліхаманкавыя абвінавачванні, якія робіцца яе кіраўніцтвам супраць сваіх клятых ворагаў, на самай справе выкліканы фантазіямі наконт асабістых учынкаў».

Праблема ў тым, што Кім Чэн Ын, якому ўсе псіхолагі ахвотна ставяць самыя цяжкія дыягназы, носіцца з ядзернай праграмай. Як следства, яго рэакцыя на інфармацыю пра радыеактыўны замах на сябе можа не абмежавацца засылкай дыверсантаў на Поўдзень.

# Германія можа пажаўцець

Алег НОВІКАЎ

**Выбары ў зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (NRW) 14 мая прымусілі палітолагаў перагледзець свае прагнозы адноста таго, як будзе выглядаць нямецкі ўрад пасля вераснёўскіх выбараў у Бундэстаг. Пра новыя трэнды «Новаму Часу» распавядае нямецкі грамадскі актывіст Андрэас Браўн.**




Фота www.deutschlandfunk.de

***— Выбары ў NRW — трэція рэгіянальныя выбары за апошнія два месяцы. Прычым іх вынікі падобныя на вынікі папярэдніх: партыя Меркель жартуючы перамагае асноўных канкурэнтаў — сацыял-дэмакратаў (SDP). Між тым, прэса надае гэтым выбарам шмат увагі…***

— Усё праз восеньскія выбары ў Бундэстаг. Яшчэ ўчора лічылася, што фармаваць кабінет увосень Меркель будзе з эсдэкамі, якія атрымаюць другое месца. Аднак выбары на Рэйне прынеслі сенсацыйны поспех яшчэ і Партыі свабодных дэмакратаў (FDP), якія атрымалі 12 працэнтаў. Нельга ігнараваць тое, што першае месца ў выбарчым спісе FDP займае яе цяперашні старшыня Хрысціян Лінднэр (Christian Lindner). З улікам таго, што Паўночны Рэйн-Вестфалія буйны, і, як следства, шмат у чым ключавы рэгіён, падобныя вынікі можна прагназаваць на выбарах у Бундэстаг. А значыць, Меркель можа ўзяць у партнёры не «чырвоных» (партыйныя колеры SDP), а «жоўтых» (партыйныя колеры лібералаў). З такім раскладам 38-гадовы Лінднэр стане, фактычна, другім чалавекам у краіне.

***— Хто такі Хрысціян Лінднэр?***

— Ён ураджэнец зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія, дзе і пачынаў сваю палітычную кар'еру. Прайшоў шлях ад кіраўніка школьнай арганізацыі да дэпутата спачатку рэгіянальнага парламента, а пасля і федэральнага. Пасля таго, як у 2013 годзе партыя не прайшла ў Бундэстаг, у структуры адбылася поўная перазагрузка кіраўніцтва, у межах якой Лінднэр быў абраны старшынёй, абяцаючы «ўсё абнавіць». Акрамя палітыкі, ён цікавіўся інтэрнэт-бізнесам, меў сваю фірму. Што тычыцца асабістага жыцця, вядома, што яго жонка — журналістка.

***— На папярэдніх федэральных выбарах FDP нават не прайшлі ў парламент. У чым прычына вяртання інтарэсу да партыі?***

— Сакрэт вяртання FDP з другой лігі нямецкай палітыкі трэба разглядаць у комплексе. Ліндэр моцна падкарэктаваў імідж партыі, зрабіў яе прывабнай у вачах маладых людзей. Доўгі час лібералы ўспрымалася як карпарацыя ўладальнікаў нерухомасці, якія звар'яцелі на тэме скарачэння падаткаў. Цяпер партыя надае шмат увагі развіццю новых тэхналогій, і адначасова магчымасці для кожнага маладога немца лёгка атрымаць адукацыю ў гэтай сферы. Лібералы абяцаюць распрацаваць камфортныя ўмовы для праектаў Start-up. Па сутнасці, гэта ўжо не класічная ліберальная, а больш сацыял-ліберальная праграма, якая прыцягнула да FDP левага выбаршчыка. Паводле сацыёлагаў, за лібералаў у NRW галасавала каля 200 тысяч чалавек, якія раней абіралі «Зялёных» або сацыял-дэмакратаў.

**Лінднэр моцна падкарэктаваў імідж партыі, зрабіў яе прывабнай у вачах маладых людзей. FDP надае шмат увагі развіццю новых тэхналогій і магчымасці лёгка атрымаць адукацыю ў гэтай сферы**

***— Вынікі апошніх зямельных выбараў называюць сімвалічным развітаннем з «эфектам Марціна Шульца» — кандыдата ў канцлеры ад эсдэкаў. Ажыятаж вакол яго асобы не канвертаваўся ў галасы электарату. Эсдэкі тройчы запар прайгралі зямельныя выбары. Ці могуць «ружовыя» паспець перабудавацца, каб у выніку дагнаць хадэкаў, ад якіх зараз адстаюць на 4–5 пунктаў?***

— Пакуль такое ўражанне, што сацыял-дэмакраты ў стане разгубленасці. Як следства, Шульц, вакол якога сапраўды зрабілі культ, ператварыўся ў адказнага за ўсе правалы. Сябры левай фракцыі кажуць, што SDP губляе галасы праз нежаданне Шульца крытыкаваць капіталізм. Правыя, наадварот, лічаць, што выбаршчыка палохае занадта выразны крэн Шульца налева, аж да гатоўнасці блоку з экс-камуністамі. Сам Шульц пасля выбараў у NRW абвясціў сябе «вулічным байцом», заявіўшы ў дадатак: «Выбарчая кампанія пачалася толькі зараз. Або я, або Меркель». Аднак такая агрэсіўная рыторыка пакуль успрымацца як нейкая поза. У прэсе ўжо прагназуюць, што да верасня сацыял-дэмакраты вернуцца ў сацыялагічных апытаннях да сваіх 25 працэнтаў, якія мелі да пачатку «эфекту Шульца».

***— Як зменіцца палітыка кабінету Меркель у выпадку партнёрства з лібераламі? Вядома, што, паводле нямецкай палітычнай традыцыі, малодшы партнёр па кааліцыі адказвае за замежную палітыку. Як гэта адаб'ецца на знешняй палітыцы ФРГ?***

— Тут жартуюць, што ў галіне знешняй палітыкі FDP больш арыентуецца не на Вашынгтон або Маскву, а на Сіліконавую даліну. Прадстаўнікі лібералаў не вельмі часта каментуюць знешнепалітычныя пытанні. Так ці інакш, яны асудзілі парушэнне прынцыпаў міжнароднага права Масквой у Крыме і заклікалі вырашаць праблему ў межах дыялогу. З улікам гэтага можна прагназаваць, што, калі кабінет з удзелам кансерватараў і «жоўтых» паўстане, міжнародная праблематыка застанецца ў кампетэнцыі Ангелы Меркель.

***— Ці ёсць перашкоды, якія могуць не дазволіць лібералам стаць урадавай партыяй?***

— Натуральна, і галоўная з іх — самі лібералы. Цяперашнім поспехам партыя шмат у чым абавязаная асобнымі якасцям Ліндэра, які выглядае «сваім у доску» для сярэдняга класу і моладзі. Аднак на месцах засталося яшчэ шмат прадстаўнікоў «старой гвардыі», якім уласцівыя і старыя забабоны. У гэтым плане ўзгадваюць скандалы з папярэднікамі Ліндэра. Некаторыя з іх падтрымлівалі Садама Хусейна, а іншыя патрабавалі ад журналістак адразу прайсці ў ложак за дадзенае інтэрв'ю. Калі даць ім мікрафон, дык скандалы непазбежныя. Персаніфікацыя партыі пад лідара — таксама не выйсце, як дэманструе досвед Марціна Шульца. Менавіта на гэта, дарэчы, разлічваюць правыя папулісты з «Альтэрнатывы для Германіі» (AfD), якія спадзяюцца, што да восені FDP усім надакучыць, і яны вернуць сабе статус вядучай апазіцыйнай сілы. Адным словам, у выбарчай кампаніі 2017-га нас чакае яшчэ шмат сюрпрызаў.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Ільхам Аліеў

Кіраўнік Азербайджана пачаў беспрэцэдэнтны наступ на свабодную прэсу. Суд прыняў рашэнне заблакаваць сайт азербайджанскай службы «Радыё Свабода» («Азатлык») і сайты яшчэ чатырох незалежных СМІ. Сайты абвінавачваюцца ў спробах арганізаваць масавыя беспарадкі, а таксама ў «дэструктыўных дзеяннях, накіраваных на парушэнне грамадскай стабільнасці».

Што датычыць незалежных аналітыкаў, дык яны лічаць прычынай закрыцця публікацыі на сайце «Азатлык» журналісцкага расследавання фінансавых аперацый, якія могуць мець дачыненне да сям'і Аліева і яго блізкага кола. Нельга абысці і тую акалічнасць, што, паводле традыцыі, гайкі ў краіне закручваюць, як правіла, падчас або напярэдадні падзей, якія нясуць рызыкі для рэжыму. Адзіная актуальная падзея, якая цягне на такі ўзровень, — банкруцтва на мінулым тыдні найбуйнейшага банкаўскага ведамства, дзяржаўнага Міжнароднага банка Азербайджана. Як следства, агучваецца версія пра тое, што ўлады не выключаюць эфекту даміно, калі пачнуць абвяшчаць сябе банкрутам іншыя банкаўскія структуры.

Такі сцэнар, відавочна, не выключае масавыя пратэсты. Застаецца дадаць, што блакаванне апазіцыйных сайтаў, на думку аглядальнікаў, прывядзе да якасна новага ўзроўню цэнзуры ў Азербайджане, што таксама азначае і перагляд «азербайджанскай мадэлі», калі Баку дзеля кааперацыі з Захадам дазваляў існаванне легальнага апазіцыйнага гета.



### Нарэндра Модзі

Дзяржаўны аналітычны цэнтр Індыі, які асабіста курыруе прэм'ер краіны Модзі, прапанаваў дарожную карту татальнай электрыфікацыі грамадскага і прыватнага транспарту ў краіне.

Калі ўрад зацвердзіць праект, праз 15 гадоў індусы будуць выкарыстоўваць выключна электрамабілі. Дасягнуць такой задачы плануецца праз нізкія працэнтныя стаўкі на крэдыты для набыцця электрамабіляў плюс нізкія падаткі для іх выбарцаў. Запланаваны незвычайны комплекс захадаў, паводле якіх будзе абмежаванае ўжыванне традыцыйных аўтамабіляў у буйных гарадах.

У выпадку рэалізацыі праекту, праз 15 гадоў (а дакладней, у 2032 годзе) будзе не пазнаць не толькі Індыю, аднак і ўвесь свет. Скарачэнне ўдвая памераў імпарту нафты — адно з наступстваў электрыфікацыі індыйскага транспарту, паменшыць ролю краінаў — экспарцёраў нафты. Гэта азначае, што Блізкі Усход, Расія і іншыя краіны — сябры клубу згубяць частку геапалітычнага ўплыву. У сваю чаргу, Індыя, якая праз адмову ад нафты будзе эканоміць штогод 60 мільярдаў долараў, можа запусціць гіганцкія сацыяльныя і адукацыйныя праграмы.

У амбіцыйных планаў Модзі хапае і крытыкаў. На іх думку, большасць карыстальнікаў аўтамабіляў і матацыклаў у Індыі — бедныя людзі, таму цалкам перайсці на электрамабілі за 15 гадоў яны папросту не ў стане.



### Эдуар Філіп

Новаабраны прэзідэнт Францыі прызначыў прэм'ера — Эдуара Філіпа, які раней працаваў мэрам Гаўра. Гэта прызначэнне трактуюць як новы крок Макрона па разбурэнні традыцыйнай палітычнай мадэлі, калі сацыялісты змагаліся з галістамі.

Эдуар Філіп да таго, як стаў пад сцягі макронаўскай партыі «Рэспубліка наперад» (LREM), быў сябрам галісцкай партыі рэспубліканцаў (LR), і нават лічыўся пратэжэ Алена Жупэ — аднаго з партыйных лідараў. Сам Філіп тлумачыць свой сыход у лагер Макрона прагматычнай патрэбай стварыць у Францыі кампетэнтны ўрад.

Што да галістаў, дык яны абвясцілі ўчынак Філіпа дэкларацыяй вайны з боку новаабранага гаранта на адрас LR. На наступным тыдні кіраўніцтва LR збіраецца выпрацаваць лінію паводзін супраць такіх, як Філіп, рэнегатаў. У сваю чаргу, прэса дапускае, што частка галістаў, а дакладней, апаненты лідара LR, лібералы экс-прэзідэнта Нікаля Сарказі, могуць пайсці да цэнтрыста Макрона. Як піша прэса, на цяперашні дзень каля 20-ці вядомых рэспубліканцаў — ад дэпутатаў да экс-міністраў і кіраўнікоў дэпартаментаў, — маральна гатовыя да здрады.

Але ў выпадку адсутнасці па выніках чэрвеньскіх выбараў у будучым парламенце прапрэзідэнцкай большасці, прэм'ерства Філіпа закончыцца ўжо прыкладна праз месяц.

19 мая 2017 | № 19 (533) Новы час

# Палессе — асобны кантынент, які немагчыма прысабечыць

Алесь КІРКЕВІЧ

**Каму належыць Палессе, падзеленае паміж украінцамі і беларусамі? Ці Смаленск і Бранск — нашы? А што з Беласточчынай? Прыадкрыць завесу над гэтымі нацыянальнымі дылемамі мы вырашылі разам з гісторыкам Андрэем Вашкевічам.**

Сёння ўсе мы жывем у сучасных нацыянальных дзяржавах. З іншага боку, «канец гісторыі», нібыта, не наступіў. Пытанні гісторыі і этнічных стасункаў па-ранейшаму застаюцца актуальнымі. Каб у гэтым пераканацца, варта паслухаць, напрыклад, тэлефонны мост паміж украінскімі афіцэрамі і сепаратыстамі з Данбасу, які адбыўся, здаецца, у 2014 годзе.

Уся размова звялася не да прэтэнзіяў у рамках сітуацыі ва Украіне напярэдадні вайны, а да… гісторыі. Людзі высвятлялі паміж сабой адносіны ў рамках дыскусіі аб прыналежнасці Данбасу, хто яго засяляў і засвойваў у далёкім мінулым. Калі мы гэта бачым, то разумеем, што гісторыя — вельмі сур'ёзная рэч: той, хто валодае гістарычнымі сюжэтамі і аргументамі, акурат і мае перавагу.

Таму хацелася б паразважаць пра гісторыю і этнічнасць, адсоўваючы ўбок ідэалогію. У прыватнасці, пра пытанне беларускіх этнічных межаў, якія на розных мапах выглядаюць цалкам па-рознаму.



Рамантычнае ўяўленне пра Палессе ў аб'ектыве польскага фатографа 1930-х гадоў



Беларускі дудар з-пад Вільні, «нашаніўская» паштоўка пач. XX ст.

**Калі гэта прарадзіма ўсіх усходніх славян, дык яе немагчыма падзяліць на ўкраінскую і беларускую часткі, бо яна старажытнейшая і за Украіну, і за Беларусь. Яшчэ ў XIX стагоддзі палешукі нават знешне моцна адрозніваліся ад беларусаў і ўкраінцаў**

## Славянскае нашэсце і «афрыканскія князькі»

Як мы ўяўляем сабе этнічныя межы беларусаў XIX стагоддзя? Калі ўзяць этнаграфічную мапу Яўхіма Карскага, заснаваную на гаворках, то можам убачыць: беларусы ў ваколіцах Бранску, далёка за Смаленскам, пад Вязьмай і г.д. У ягоную мапу ўвайшлі вялізныя тэрыторыі, якія альбо ніколі не знаходзіліся ў складзе ВКЛ, альбо знаходзіліся там вельмі кароткі перыяд — літаральна некалькі дзесяцігоддзяў. То бок, казаць аб тым, што наша мова фармавалася ў кантэксце ВКЛ пад уплывам дзяржаўнай палітыкі, — не выпадае.

І тут мы падыходзім да цікавай гіпотэзы, якую аднойчы агучыў вядомы гісторык Алесь Белы. Згодна ёй, беларуская мова — гэта накладзеная на балцкія гаворкі старажытнаруская мова. Такім чынам рэальны распаўсюд протабеларускай мовы сягаў усіх тых тэрыторыяў, дзе адбываўся балта-славянскі кантакт. Як гэта выглядала? На тэрыторыю прыходзілі славяне, зазвычай невялікімі групамі. Балтаў-аўтахтонаў, праўда, было не нашмат болей — заселенасць рэгіёну не была вельмі шчыльнай. Па меры ўзнікнення адносінаў і кантактаў, балты змушаныя былі вучыць мову прыхадняў, паколькі славяне мелі цікавыя для набыцця тавары, былі, груба кажучы, больш цывілізаванымі.

У выніку, атрымалася нешта кшталту моваў «піджын» у Афрыцы. Там мела месца падобная сітуацыя: мясцовыя князькі былі зацікаўленыя ў кантакце з каланізатарамі, таму вучылі англійскую, але атрымліваўся мадыфікаваны варыянт мовы, трасянка. «Піджын» у выпадку Афрыкі XIX стагоддзя — гэта англійская мова з выразнымі элементамі мясцовых моваў у фанетыцы і лексіцы. Так і ў нас — колішні балцкі абшар да славянскага нашэсця амаль ідэальна накладаецца на тэрыторыю распаўсюду беларускіх гаворак паводле Карскага і нават паводле больш ранніх даследчыкаў.

## Тургенеў і балта-славянскі надлом

Асабліва добра гэта бачна па ўсходняй мяжы распаўсюду беларускай і рускай мовы. Мапа Карскага была першым грунтоўным даследаваннем гэтай мяжы, хоць 1890-я гады — гэта ўжо час моцных зменаў нават у патрыярхальным грамадстве Расійскай імперыі. Гэта час выціскання аўтахтонных моваў з ужытку на карысць адзінага дзяржаўнага варыянту рускай мовы. Паводле Карскага, мяжа беларускай мовы праходзіла ў некалькіх кіламетрах на захад ад Бранску. Калі браць сучасную палітычную мапу, то гэта недзе на 100 кіламетраў углыб тэрыторыі РФ ад дзяржаўнай мяжы Беларусі.

Але вось цікавая гісторыя, запісаная яшчэ ў 1847 годзе, за 15 гадоў да нараджэння Карскага. Іван Тургенеў у сваіх «Нататках паляўнічага» дае апісанне абшару, які знаходзіцца яшчэ на 80 кіламетраў на ўсход ад Бранску (то бок на 180 кіламетраў углыб сучаснай Расіі). Аўтар апісвае калужскага і арлоўскага мужыка, які належаць ледзьве не да розных фізіялагічных відаў: настолькі моцны кантраст.

Самае цікавае, што Болхаўскі ўезд — гэта лесастэп, а Жыздра ў Калужскай губерні — гэта лясная тэрыторыя, яна адносіцца да нашага абшару. Апісаная тэрыторыя і ёсць, па сутнасці, мяжой балта-славянскага кантакту. Цалкам магчыма, што Тургенеў апісваў з аднаго боку беларускамоўнага славяна-балта, «высокага, тварам белага і чыстага», а вось арлоўскі мужык у лапцях — гэта 100-адсоткавы «вялікарус».

Чаму мы пра гэта кажам? У раннім сярэднявеччы існавалі досыць яскравыя межы этнічных рэгіёнаў, і людзі захоўвалі адрозныя рысы. Таму зусім не выключана, што яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя па-беларуску размаўлялі пад Жыздрай у 180 кіламетрах ад сучаснай беларуска-расійскай мяжы, але тады наўпрост ніхто гэтага не фіксаваў — Карскі яшчэ нават не нарадзіўся.

Размова ідзе пра верхнія прыокскія княствы, якія былі ў складзе ВКЛ гадоў 50–60 у XV стагоддзі, прычым уваходзілі на аўтаномных умовах. Зразумела, што ў той час і ў тых умовах навучыць мясцовых жыхароў размаўляць па-старабеларуску было наўпрост немагчыма: беларускасць у іх была нашмат глыбей. Таму беларуская мова, прынамсі яе зараджэнне і фармаванне, — гэта не прадукт ВКЛ, а нешта значна больш старажытнае за само Вялікае Княства.





Бацькі БНР, малюючы межы новай рэспублікі, абапіраліся на мапу Карскага





Карта «беларускага племені» Яўхіма Карскага

## Палессе — протарадзіма ўсходніх славян?

Тэрытарыяльныя зачэпкі з Украінай тычацца найперш Палесся, якое украінцы традыцыйна малююць як частку сваёй этнічнай тэрыторыі. Так малявалі за часамі гісто-

рыка Грушэўскага, так лічылі ўрадаўцы УНР, так мяркуюць нават некаторыя сучасныя нацыяналісты. Беларусы, у сваю чаргу, любяць прыплесці, што Чарнігаўшчына — таксама беларуская тэрыторыя... Але на ўсе гэтыя спрэчкі можна глядзець з усмешкай, ведаючы, што Палессе — гэта тэрыторыя, дзе, верагодна, і з'явіліся ўсходнія славяне ў прынцыпе.

Як на тых балотах магло нешта з'явіцца? Па-першае, умовы там не такія ўжо і неспрыяльныя — гэта ж не суцэльна пакрытая балотамі тэрыторыя. Урэшце, ёсць прыклад таго ж Каўказу, дзе ў гарах на невялічкай тэрыторыі паўстала агромністая колькасць народаў і этнічных групаў. Па-другое, праз іншыя, больш адкрытыя рэгіёны, увесь час нехта «маршыраваў»: готы, гуны, скіфы і г.д. А Палессе заставалася даволі ізаляваным рэгіёнам, дзе, як у катле на агні, маглі пачацца хімічныя рэакцыі.

Калі гэта прарадзіма ўсіх усходніх славян, дык яе немагчыма падзяліць на ўкраінскую і беларускую часткі, бо яна старажытнейшая і за Украіну, і за Беларусь. Вядома, што нават знешне палешукі яшчэ ў XIX стагоддзі моцна адрозніваліся ад беларусаў і ўкраінцаў: невысокія, чарнявыя, часам з вялікімі ілбамі. Беларусы ж — высокія, светлыя, з выцягнутымі тварамі — такія знешнія адзнакі можна бачыць ужо на Случчыне. Чаму? Зноў жа, бо на поўнач ад Палесся ўжо ішоў працэс змешвання славянаў з балтамі, сярод якіх пераважаюць блакітнавокія бландзіны.

### Не ўкраінцы далі палешукам мову, а палешукі — украінцам

У плане мовы, канешне, Палессе бліжэйшае да Украіны. У гэтым ёсць логіка, бо згодна даследчыкам, украінская мова, у параўнанні з беларускай і рускай, найбольш набліжаная да аўтэнтычнай версіі пайднёва-ўсходняга варыянту старажытнай усходнеславянскай мовы. Мова палешукоў аб'ектыўна бліжэйшая да ўкраінскай, але не палешукі прынялі ўкраінскую мову, а ўкраінская мова пайшла ад палешукоў, узбагаціўшыся пазней цюркскімі ды іншымі элементамі.

З пункту гледжання дзяржаўнасці, Палессе пазней больш варылася ў складзе ВКЛ, калі



Капліцы на каталіцкіх могілках у Сапоцкіне

казаць пра XIV–XVIII стагоддзі. Так і пайшло: калі сёння спытаць людзей у ваколіцах Маларыты пра іх нацыянальную прыналежнасць, яны адкажуць: беларусы. Але паміж сабой будуць размаўляць на мове, максімальна набліжанай да ўкраінскай. Палессе — гэта асобны кантынент, які немагчыма падзяліць паміж Беларуссю і Украінай.

Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пачытаць падарожныя нататкі Міколы Улашчыка 1920-х гадоў, які прайшоў мяжу Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці і Салігорскага раёна Мінскай вобласці — амаль сярэдзіну Беларусі. Зноў жа, як у Тургенева: два кантыненты, два цалкам адрозныя тыпы жыхароў і іх звычаяў. Такім чынам, старыя этнічныя межы былі добра бачныя яшчэ на пачатку XX стагоддзя, асабліва ў сельскіх рэгіёнах, да якіх не дабралася цывілізацыя.

### Палешукі на Падляшшы і вуліца Яна Паўла II у Сапоцкіне

Калі кранаць беларуска-польскую этнічную мяжу, то і тут не ўсё проста. Прасцей, хіба, у тым плане, што яна фактычна супала з мяжой ВКЛ і Кароны Польскай. Плыні засялення беларуска-польскага памежжа рухаліся яшчэ ў XV–XVI стагоддзях. З нашага боку гэта былі жыхары Гродзеншчыны, з захаду на ўсход ішлі мазуры. Мяжа этнасаў, такім чынам, праходзіла пад Беластокам, крыху не даходзячы да яго.

З пункту гледжання мовы, праваслаўныя жыхары Падляшша — гэта палешукі. Тое ж з прозвішчамі: Гаўрылюкі, Раманюкі ды інш. Украінцы, акурат зважаючы на гэтую моўную асаблівасць, на мапах часта прыпісвалі яго сабе. Але, надзіва, мясцовыя жыхары прынялі акурат беларускую самасвядомасць. Калі браць паўночную частку Беласточчыны, тую ж каталіцкую Сакольшчыну, то яна была паланізаваная толькі ў XX стагоддзі, і тое не татальна.

Рэгіён Сапоцкіна, які знаходзіцца зусім побач з Гродна па нашым баку мяжы, гэта колішняя Аўгустоўшчына. Этнічна сапоцкінцы — гэта мешаніна ўсходніх славян і балтаў, але на нацыянальнае самавызначэнне мясцовых жыхароў найбольш паўплывалі зусім нядаўнія падзеі. Лёс гэтай тэрыторыі вельмі цікавы. Скажам, калі б уніяты з-пад Сапоцкіна пасля падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе апынуліся ў Расіі, то сучасныя сапоцкінцы наўрад ці б нечым адрозніваліся ад жыхароў Скідзеля альбо Бераставіцы. Але яны апынуліся ў Прусіі, а пасля ў Каралеўстве Польскім. Там уніяцтва пратрывала да 1875 года і пасля 1905-га яны амаль цалкам прынялі каталіцтва і сталі палякамі з высокім узроўнем нацыянальнай свядомасці. Чаго каштуе хаця б вуліца імя Яна Паўла II у Сапоцкіне, якая раней насіла імя Леніна!

### Пад Гродна размаўлялі па-літоўску ажно да 1950-х

Мы часта кажам пра Вільню як «крывіцкую Мекку» і спрадвечную беларускую тэрыторыю, маючы шмат прэтэнзіяў да літоўцаў, якія, нібыта, ніколі там і не жылі. Пры гэтым балюча ўспрымаем, калі літоўцы кажуць пра свой «Гардзінас» і «Наўгардукас» (балцкія назовы Гродна і Наваградка). Як жа было насамрэч?

Можна супаставіць мапу Яўхіма Карскага і працу ягонага калегі Фердынанда Рыціха, падрыхтаваную яшчэ ў 1860-х гадах. Мапа Карскага пабачыла свет толькі на пачатку XX стагоддзя, то бок паміж імі прыкладна 30 гадоў розніцы. Калі ж прыглядзецца да працэсаў, якія адбываліся ў гэтым рэгіёне, дык дынаміка будзе тая ж, што і на беларуска-рускай этнічнай мяжы, толькі наадварот. Калі ў папярэднім выпадку руская мова адціскала на захад беларускую, то тут беларуская адціскала на поўнач і захад літоўскую.

Гэта быў стыхійны працэс. Таму на пачатку XX стагоддзя свядомыя літоўцы баяліся беларусаў нават больш, чым палякаў. Стыхійная беларусізацыя была іх фобіяй. На мапах гэта выдатна бачна: літоўскі арэал імкліва сціскаўся. Зараз нам цяжка ўявіць, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя тая ж Воранаўшчына была цалкам літоўскамоўнай. За сто гадоў да гэтага літоўскую няблага ведалі нават у ваколіцах Гродна.

Прыклад таму — гісторыя вёскі Азяркі недалёка ад Гожы ў Гродзенскім раёне. Яе знеслі напрыканцы 1950-х, каб збудаваць палігон сярод глухога лесу. Дык вось, паміж сабой азярчане да апошняга размаўлялі па-літоўску, хоць з жыхарамі ваколіцаў пераходзілі на польскую ці беларускую мову. Як так сталася? Вёска наўпрост была надзейна схаваная ў лесе, гэта быў літоўскі этнічны рэлікт, які застаўся ад даўнейшых часоў. Падобныя прыклады былі і на Дзятлаўшчыне: старыя людзі размаўлялі па-літоўску да сярэдзіны XX стагоддзя.

### Рэальная гісторыя зусім іншая

Што мы маем у выніку? Атрымліваецца вельмі складаная, стракатая і неадназначная карціна, якая менш за ўсё кладзецца на дзяржаўныя межы, гістарычныя міфы ды нацыянальныя ідэалогіі: што беларускую, што ўкраінскую, што расійскую, што польскую... Мы вельмі часта выкарыстоўваем гістарычныя аргументы для таго, каб падмацоўваць нашы сучасныя канцэпцыі і жаданні. Рэальная гісторыя зусім іншая.

Зараз усе мы жывем у прасторы, якая стала плёнам гістарычных канцэпцый і палітычных падзеяў XIX–XX стагоддзяў. Вельмі часта мы наўпрост плящемся ўслед за састарэлымі тэндэнцыямі, напрыклад, гукаючы «Вільня наша!» альбо «Смаленск наш!» Але навошта беларусам той жа Смаленск ці Бранск, калі аб'ектыўна гэты ўбытачны датацыйны рэгіён, які папросту вымірае?

Прыклад гісторыі з анексіяй Крыму паказальны: Расія ўзяла на сябе эканамічны і палітычны цяжар у абмен на сумнеўныя прапагандысцкія бонусы, абгрунтаваўшы ўсё «гістарычнымі прычынамі». Дык можа варта нарэшце пасталець і пачаць ставіцца да гісторыі як да навукі пра мінулае, а не як да «палітычнай прастытуткі», якую можна выкарыстоўваць дзеля задавальнення спарадычных жаданняў?



Бранск на фотаздымку пач. XX ст.

*«Кому случалось из Болховского уезда перебираться в Жиздринский, того, вероятно, поражала резкая разница между породой людей в Орловской губернии и калужской породой. Орловский мужик невелик ростом, сутуловат, угрюм, глядит исподлобья, живет в дрянных осиновых избенках, ходит на барщину, торговлей не занимается, ест плохо, носит лапти; калужский оброчный мужик обитает в просторных сосновых избах, высок ростом, глядит смело и весело, лицом чист и бел, торгует маслом и дегтем и по праздникам ходит в сапогах. Орловская деревня (мы говорим о восточной части Орловской губернии) обыкновенно расположена среди распаханных полей, близ оврага, кое-как превращенного в грязный пруд. Кроме немногих ракит, всегда готовых к услугам, да двух-трех тощих берез, деревца на версту кругом не увидишь; изба лепится к избе, крыши закиданы гнилой соломой... Калужская деревня, напротив, большею частью окружена лесом; избы стоят вольней и прямей, крыты тесом; ворота плотно запираются, плетень на задворке не разметан и не вывалился наружу, не зовет в гости всякую прохожую свинью...»*

***Иван Тургенев «Хорь и Калиныч»***

*«Дабіраемся ўрэшце да саміх палешукоў. Што яны палешукі, гэта ўсім цвёрда ведама. Палешукі — асобны народ, а крыху далей на поўнач, у Мяжэвічах, ужо жыве Літва.*

*— Што, як? Літва?*

*— Ну да, Літва! Хіба ж вы, вучоны чалавек, не ведаеце?*

*Я, вучоны, усё ж не ведаў, што тут Літва. Пачынаецца гутарка на гэтую тэму, і высвятляецца, што Літвою палешукі завуць Случчыну і наогул усю Беларусь. Пытаю ў іх пра сучасную Літву, але пра яе палешукі нічога не чулі наогул. Распытваю, якая ж розніца паміж палешукамі і літвою (не літоўцамі, але літвою) і даведваюся, што розніца ва ўсім: інакш гавораць, інакш апранаюцца, інакш будуюцца. Выцягваю сваю карту-трохвёрстку і пробую ўстанавіць межы «Літвы» і Палесся. Мяжа аказваецца недалёка. Палескія толькі вёскі Пагібелька, а далей на Слуцк в. Мяжэвічы — ужо Літва. (...)*

*Падыходжу да Мяжэвіч — вёскі з двух ці трох двароў — і сапраўды бачу, што тут іншы свет. Нідзе я не бачыў яшчэ такой рэзкай розніцы, як тут. Розніца літаральна ўсё: і зямля, і лес, і будынкі, і людзі, і адзенне на людзях, і іх мова. Мяжэвічы — гэта ўжо чыстая Беларусь, Беларусь Слуцкая, выразней кажучы, вышэйшага гатунку».*

***Мікалай Улашчык, з кнігі «Краязнаўчыя нарысы, мемуары»***



Старадаўнія балты, сучасная рэканструкцыя

# Архіў вуснай гісторыі: «Следуя верно ленінскім заветам»

Павел ЦЕРАШКОВІЧ

**У верасні 1982-га, недапрацаваўшы нават і года, я сышоў з працы ў Міністэрстве культуры. Сышоў з палёгкай, без якога-небудзь шкадавання. Ну, не маё гэта.**

Ды і каго прываблівае віраванне бюракратычнага жыцця? Каму падабаюцца бясконцыя змены папяровых тайфунаў, калі праца доўжыцца да апоўначы, і зацішаў, падчас якіх вар'яцееш ад вымушанага гультайства? Для малодшага бюракратычнага звяна сэнс удзелу ў гэтай ліхаманцы вызначаны знаходжаннем на стратэгічнай вышыні.

Растлумачу: мэта кожнага бюракрата — зрабіцца большым бюракратам. Але рэдка калі міністэрскі інспектар можа даслужыцца да кіраўніка ўпраўлення, а тым больш — да намесніка ці самога міністра. Таму інспектар, падобна горнаму арлу, ці, часцей, сцярвятніку, сочыць з міністэрскіх вяршынь, ці не з'явіцца дзе-небудзь на нізе, у падначаленай установе, патэнцыяльная ахвяра — дырэктар пенсійнага ўзросту. Каменем падае ён, гэты санітар бюракратычнага лесу, каб угнездзіцца на пару дзясяткаў гадоў у нейкім, пажадана, невялікім музеі, тэатры і гэтак далей. Там і праца спакайней, і грошай паболей, чым у інспектара, і — сам сабе гаспадар. Мяне такая перспектыва не надта прываблівала, таму з міністэрства я сышоў у Дзяржаўны музей на пасаду простага навуковага супрацоўніка.

Аднак міністэрства не пакідала мяне ў спакоі і тут. У лістападзе я быў мабілізаваны на «Беларускую музычную восень». Гэта такі фестываль. Для Міністэрства культуры — нешта кшталту сельскагаспадарчай уборачнай. Пры гэтым жніво адкладалі, падобна сучаснаму збору кукурузы на заснежаных палетках, да апошняй дэкады лістапада. Маўляў, адступаць няма куды, ззаду — снежань.




Фестываль меў рэспубліканскі статус. Гэта значыла, што мастацкае зерне трэба было раскідаць як мага шырэй. З Масквы ды Піцеру, іншых рэспублік і, часам, краёў, у Беларусь завозілі музыкаў ды спевакоў, каб не толькі працоўныя і служачыя Мінска, але і жыхары абласных і раённых цэнтраў маглі, як у той час казалі, «пазнаёміцца з творчасцю»... Ну і гэтак далей. Зразумела, што на гэтым цярністым шляху творцы маглі сутыкнуцца з нечаканымі праблемамі, развязванне якіх патрабавала ведання лакальнага кантэксту. Дзеля гэтага да кожнага калектыву прыстаўлялі прадстаўніка міністэрства. Мяне прызначалі ў Акадэмічную харавую капэлу імя Юрлова з Масквы. Апроч удзелу ў заключным канцэрце ў Мінску, яна павінна была ахапіць Магілёўскую вобласць.

Праблемы лакальнага характару з'явіліся з самога пачатку. Справа ў тым, што ў абласной сталіцы музычны фестываль супаў з рэспубліканскім чэмпіянатам па вольнай барацьбе. Месцаў у гатэлі на ўсіх не хапала, і кіраўніцтва вырашала частку гасцей пасяліць у піянерскім лагеру, у якім не тое што гарачай вады, ацяплення не было. Зразумела, што адказ на пытанне, каго сяліць у лагер, вырашыўся не на карысць спевакоў. Я нават думаю, што такога пытання ў мясцовай улады ў прынцыпе і не было. Яно б не паўстала, нават калі б яны і ведалі, што капэл такіх у свеце — адзінкі.

Раніцай разам з намеснікам дарэктара капэлы мы накіраваліся ў абласное аддзяленне філармоніі. Яе загадчык сустрэў нас словамі: «Вам — на сясцёр?» Размова ўвесь час перарывалася званкамі па тэлефоне.

«Здрасце, здрасце, ...рый ...ыч, Вам на сясцёр, ... ну канешне, канешне, для Вас — лепшыя месцы, ... да Вас завезлі, ... ага, фінскія, да, так, размер у жонкі — 37, ... ну бывайце».

«Вось бачыце, — казаў ён, — усе хочуць на сясцёр, а сімфонія ваша нікому не патрэбная».

«Сёстры» — гэта былі родныя сёстры Сафіі Ратару. Я ніколі не чуў іх спеваў. Магчыма, гэта было і нядрэнна. Але наўрад ці яны, каб не прозвішча сястры — зоркі савецкай эстрады, выклікалі б такі ажыятаж у Магілёве.

Наступнай інстанцыяй быў абкам партыі. Функцыянер, які пагадзіўся нас выслухаць, як мне падалося, займаў палову кабінета. Я яшчэ ніколі не бачыў такіх тлустых людзей. Нават ягоныя пальцы былі тлустыя да такой ступені, што не змяшчаліся ў дзірачкі дыску тэлефону. Ён набіраў нумар алоўкам.

«Вось бачыце, — казаў ён, — мне дакладаюць, што ўмовы ў лагеры не горшыя за гатэль. Няма на што наракаць. Я вас больш не затрымліваю».

Мы былі ў роспачы. Але дырэктарка капэлы вырашыла, што час улагоджвання ворага мінуў. Яна патэлефанавала наўпрост (так-так, менавіта туды!) у ЦК КПСС і растлумачыла, што галасы спевакоў — гэта не абы што, а валюта, бо большую частку года капэла выступае за мяжой, і што калі яшчэ адна такая ноч — то за спевы не тое што даляра не ўбачыш, драўлянага рубля не дадуць.

Галоўную ролю, аднак, адыграла не меркантыльная рыторыка, а пытанне, якое заўсёды робіць чароўнае ўздзеянне на чыноўніка: «А хто за ўсё гэта будзе адказваць? Я з сябе адказнасць здымаю». Вядома, што запаветная мара кожнага бюракрата — усім кіраваць і ні за што не адказваць. У гэтых адносінах дыктатура ёсць найвышэйшай формай чыноўнага геданізму, так бы мовіць — бюракратычная нірвана.

Падзейнічала. З лагеру ў гатэль нас пераносілі ледзь не на руках. Прычым рабілі гэта тыя самыя барцы вольнага стылю. Увечары на канцэрт прыйшло ўсё абласное кіраўніцтва. Па тварах было бачна, што ўвалілі ім не проста добра, а так добра, што некаторыя нават былі больш схільныя прыняць смяротнае пакаранне. Пасля першых спеваў замест выразу пакут на тварах з'явілася выява суцэльнага неразумення: «...і за гэтую ...ню так улілі?! Дык у нас бабулькі ў раённым доме культуры не горш равуць».

Камічнасці сітуацыі надавала яшчэ і тое, што ўсе жонкі абласнога кіраўніцтва прыйшлі ў гарнітурах аднаго колеру, з адной тканіны, якая супадала за абіўкай крэслаў у канцэртнай зале. Справа ў тым, што ў тым годзе на мэблевую фабрыку завезлі партыю шыкоўнага, колеру марской хвалі, югаслаўскага велюру. Частка яго з нагоды надзвычайнай прыгажосці трапіла ў распараджэнне жаночай часткі абласной наменклатуры. Але велюр той быў мэблевы. Як ні змагаліся з ім краўчыхі з абкамаўскага атэлье, нічога добрага не атрымалася. Лепш бы яны звярнуліся да мебельшчыкаў — крэслы былі абабітыя выдатна.

Трэба адзначыць, што ў нечым загадчык абласной філармоніі меў рацыю. На капэлу — «сімфонію», як ён казаў, — у райцэнтрах ніхто не прыходзіў. Часта слухачоў было меней, чым спевакоў. У Бабруйску выступ быў у Доме афіцэраў. Кіраўнік капэлы казаў: «Тут фенаменальная акустыка. Пляваць на ўсё. Сёння спяваем Рахманінава. Для сябе. Пад маю адказнасць». Так я ўпершыню пачуў забароненую ў саюзе «Усяночную». Гэта, а не галантарэйны Чайкоўскі, — вяршыня рускай музыкі.

На закрыцці фестывалю капэлу прывезлі ў Мінск. «Сёння цяжка будзе, — казалі мне спевакі, — араторыя Шастаковіча, сапраўды араць трэба».

На сцэне філармоніі амаль не засталося вольнага месца: сімфанічны аркестр, капэла, дзіцячы хор.

Басы, рэчытатыў:

«Следуя-верно-ленинским-заветам».

Падключаюцца вялікія барабаны, рытм як на галерах у старым «Бен Гуры» ці «Клеапатры»:

Бум-бум-бум-бум...

«Мы-идём-к-коммунизму-дорогою-светлой».

Дзіцячы хор, падчас «...лой»:

«А-а-а-а-а-а-а...»

Уступае аркестр. Басы, рэчытатыў: «Но-главное-наше-богатство»...

Дзеці: «А-а-а-а-а-а...»

«Это-бра-а-а-а-тство».

«А-а-а-а-а-а...»

«Велкикое-бра-а-а-тство!»

«А-а-а-а-а-а...»

Гучыць усё, што можа гучаць.

Літаўры.

Заслона.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар Колб Аксана Мікалаеўна
Намеснік рэдактара Пульша Сяргей Пятровіч
Стыль-рэдактар Пяроўская Святлана Віктараўна

ЗАРЭГІСТРАВАНА Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №474

Падпісана да друку 19.05.2017. 8.00.
Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.